

# Беларус

БЕЦЕ Ў СЭРЦЫ ІХ —
БЕЦЕ МЯЧАМІ!
НЕ ДАВАЙЦЕ
ЧУЖЫНЦАМІ БЫЦЬ!

*Максім Багдановіч*
*(1891-1991)*

№ 394 Кастрычнік 1992
Год. выд. XLI

BIELARUS / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Ass'n., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50

## ПРЭЗЫДЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ Ў ЗША І БЕЛАРУСЫ

Калі прасачыць удзел амэрыканскіх беларусаў у прэзыдэнцкіх выбарах апошніх сарака гадоў, дык стане відавочным, што ў сваёй пераважнай бальшыні беларусы галасавалі за кандыдатаў Рэспубліканскае партыі. А гэта таму, што рэспубліканцы больш за дэмакратаў надавалі вялікае значэньне замежнай палітыцы, асабліва справе змаганьня з камунізмам і расейскім імпэрыялізмам, і ў гэтым змаганьні рабілі стаўку таксама на паняволеныя камунізмам нерасейскія народы СССР.

Сёлетнія выбары адбываюцца ў зусім зьмененых міжнародных абставінах: камунізм збанкрутаваў па цэлам сьвеце, савецкая імпэрыя разваліласл, халодная вайна перайшла ў падручнікі гісторыі. Цэнтральнае месца на палітычнай арэне заняла эканоміка. А з эканомікай цяжкасьці па цэлым сьвеце, у тым ліку і ў Амэрыцы. Эканоміка сталася Ахілесавай пятой Прэзыдэнта Буша, якога кандыдат у прэзыдэнты ад Дэмакратычнай партыі, Біл Клінтан, крытыкуе за няздольнасьць даць рады эканамічным праблемам.

Хоць рэдакцыя газэты «Беларус» не праводзіла сыстэматычнага апытаньня сваіх амэрыканскіх чытачоў што да іхнае схільнасьці ў бок таго ці іншага прэзыдэнцкага кандыдата, ёй ведама, што шмат хто з амэрыканскіх беларусаў стаіць за кандыдатуру рэспубліканца-Прэзыдэнта Буша. Сваімі галасамі за кандыдата Рэспубліканскае партыі яны сплачваюць, так-бы сказаць, палітычны доўг — выказваюць удзячнасьць і Рэспубліканскай партыі, і асабіста Прэзыдэнту Джорджу Бушу за лідэрства, за вядучую ролю ў сьвеце ў змаганьні супраць камунізму й расейскага імпэрыялізму, за прызнаньне незалежнасьці Беларусі, і гэтым дэманструюць сваю адданасьць справе свабоды й сувэрэннасьці беларускага народу.

## БРЫФІНГ У БЕЛЫМ ДОМЕ

У пятніцу 9 кастрычніка ў Белым Доме адбыўся брыфінг для чатырнаццацёх прадстаўнікоў беларуска-амэрыканскага грамадзтва. Інфарматарамі на брыфінгу былі: Джым Шэйфэр, Памочнік Дырэктара Аддзелу Грамадзкай Сувязі Белага Дому; Кэты Навэльлі, Дырэктар Аддзелу Амэрыканскага Гандлёвага Прадстаўніцтва для Ўсходняй Эўропы й Новых Незалежных Дзяржаваў; Ніколяс Бэрнс, Дырэктар Аддзелу Расейскіх і Эўразійскіх Справаў Нацыянальнае Рады Бясьпекі; і Пол Тыммэр, кіраўнік Беларускага Стала Дзяржаўнага Дэпартаманту. Усе яны гаварылі пра заціраўленьне радыёперадачы «Голасу Амэрыкі», дапамогу ахвярам чарнобыльскай радыяцыі на Беларусі, пашырэньне амэрыканска-беларускага гандлю й культурнага абмену ды наняцьцё ў Белы Дом дарадніка па беларускіх справах.

Дэлегаты перадалі ўрадаўцам мэмарандум з ацэнай палітычнага становішча на Беларусі й пажаданьнямі што да далейшага беларуска-амэрыканскага супрацоўніцтва.

Із свайго боку прадстаўнікі ўраду запрашалі амэрыканскіх беларусаў трымацьць як мага цясьнейшую лучнасьць зь Белым Домам, зь Дзярждэпартамантам: тэлефанаваць, наведваць, прысылаць інфармацыю пра Беларусь.



*Пасьля брыфінгу супольны здымак з Джымам Шэйфэрам (другі зьлева на пярэднім пляне).*

Брыфінг адбыўся стараньнямі сп-ні Веры Рамук, сакратара Беларуска-Амэрыканскага Каардынацыйнага Камітэту Чыкага, і сп. Джыма Шэйфэра, Памочніка Дырэктара Аддзелу Грамадзкай Сувязі Белага Дому. У складзе дэлегацыі ў Белы Дом былі: Вера Бартуль, Томас Бэрд, Павал Васілеўскі, Майкэл Гаскі, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель, Зора Кіпель, Мікола Прускі, Янка Раковіч, Вера Рамук, Вітаўт Рамук, Богуш Станкевіч, Янка Ханенка, Астап Яраховіч.

## БІЛ КЛІНТАН ПРА «КОРПУС ДЭМАКРАТЫІ» ДЛЯ ЎСХОДНЯЙ ЭЎРОПЫ

Дэмакратычны кандыдат на прэзыдэнта ЗША, Губэрнатар Біл Клінтан, у сваёй прамове на тэму замежнай палітыкі, сказанай у гор. Мілвокі, штат Віскопсын, 1-га кастрычніка, выказаўся за актыўнае падтрымліваньне дэмакратычных працэсаў па цэлым сьвеце, упасобку ўва Ўсходняй Эўропе. «Нават пры нашых бюджэтных абмежаваньнях, — сказаў Клінтан, — мы можам шмат чым дапамагчы дэмакратыям па цэлым сьвеце».

Прэзыдэнцкі кандыдат падтрымаў ідэю стварэньня «Корпусу Дэмакратыі» — праграмы пасыланьня дасьветчаных амэрыканцаў у рэспублікі былога Савецкага Саюзу, каб дапамагаць там станаўленьню мясцовых дэмакратычных лідэраў. Для гэтай мэты, сказаў Б. Клінтан, ён мае намер выкарыстоўваць кадры спасярод імігрантаў Амэрыкі, якіх шмат па такіх гарадох, як Чыкага, Кліўленд, Мілвокі і іншыя.

«Мы павінны будаваць далей, — сказаў Клінтан, — на дасягненьнях радыястанцыяў Вольная Эўропа-Радыё Свабода і пашырыць наша ўдалае радыёвяшчаньне на краіны дэспатызму ў Азіі — Кітай, В'етнам, Ляос, Паўночную Карэю і Бірму».

### *ЗША ЯК ГАРАНТ РАКЕТНАГА ПАГАДНЕНЬНЯ?*

Фёдар Бурлацкі, дараднік савецкага лідэра Мікіты Хрушчова ў часе г. зв. Кубінскага ракетнага крызісу ў 1962 годзе (калі Фідэль Кастра ў тэлеграме да Хрушчова раіў правесьці ядзерную атаку на Амэрыку), пішучы цяпер у газэце «Нью-Ёрк Таймс» (23.X) пра чатыры ядзерныя дзяржавы — Расею, Беларусь, Украіну і Казахстан — не выключае й цяпер небясьпекі ракетна-ядзернага крызісу. Каб такую небясьпеку прадухіліць, Бурлацкі прапануе заключыць адпаведнае пагадненьне паміж Расеяй, Украінай, Беларусяй і Казахстанам. Бурлацкі кажа:

«Злучаныя Штаты павінны запрапанаваць гэтым дзяржавам свае паслугі пасярэдніка й гаранта ядзернага пагадненьня паміж імі. Калі-б Украіна, Беларусь і Казахстан пагадзіліся на ядзернае раззбраеньне, Злучаныя Штаты павінны былі-б ахоўваць іх ад ціску з боку Расеі».

Беларуская дэлегацыя гаварыла ў часе брыфінгу пра патрэбу выяўленьня з боку ўраду ЗША зацікаўленасьці да справы правядзеньня рэфэрэндуму на Беларусі, пра ўвод беларускае мовы ў каўленасьць ураду ЗША ў станаўленьні незалежнасьці, дэмакратыі й эканомікі Рэспублікі Беларусь ды пра гатовасьць Вашынгтону да пашырэньня сувязяў зь ёю. Паміж Вашынгтонам і Менскам ідуць перамовы й кансультацыі, якія паступова прыводзяць да цясьнейшага амэрыканска-беларускага супрацоўніцтва.

### *«РАЗЬНЯВОЛЕНЫ РОЗУМ» ПРА БЕЛАРУСЬ*

Амэрыканскі квартальнік «Разьняволены розум» (Uncaptive Minds, N. 2, pp. 61-74) орган ньюёркскага Інстытуту для Дэмакратыі ўва Ўсходняй Эўропе, у другім сёлетнім нумары зьмясьціў тры невялікія матар'ялы пра палажэньне на Беларусі.

У адным расказваецца пра Камароўскі рынак і мафіёзную дзейнасьць у Менску, у другім даецца са слоў лідэра БНФ Зянона Пазьняка ацэнка палітычных партыяў на Беларусі і шанцаў на далейшую дэмакратызацыю, у трэцім актывіст БНФ Якуб Лапатка піша пра засільле на Беларусі расейскага моўнага шавінізму.

### *ДЗІЦЯЧАЯ БІБЛІЯ ПА-БЕЛАРУСКУ*

У выдавецтве стакгольмскага Інстытуту Перакладу Бібліі выйшла сёлета па-беларуску «Дзіцячая Біблія». Пераклад зроблены з расейскае мовы. Гэта пераказ з цытатамі Старога й Новага Запаветаў, зроблены Барыславам Араповічам і Верай Мацьцёлмякі. Багата ілюстраваная каляровымі малюнкамі (левая старонка — тэкст, правая — ілюстрацыя), на глянцавай паперы, у добрым пераплёце, кніга на 542 старонках друку ўводзіць чытача ў сьвет галоўных біблейскіх пэрсанажаў, прарокаў і цароў, а таксама ў катэгорыі хрысьціянскіх вартасьцяў.

У кароткім уступным слове ад выдаўца сказана, між іншага, што «Біблія была першай друкаванай кнігай ва ўсходніх славян. І надрукаваў яе, пачынаючы з 1517 году, асобнымі кнігамі наш суайчыньнік, родам з Полацку, Францыск Скарына».

Пад канец 1990 году Біблія была перакладзеная на 1946 моваў.

### БЕЛАРУСКІЯ СУВЭНІРЫ Ў ВАШЫНГТОНЕ

На галоўным чыгуначным вакзале ў Вашынгтоне, на адным са шматлікіх сувэнірных стэндаў у верхнім голе пры выхадзе да таксі (стэнд стаіць насупраць падобнага манэтнага стэнду, недалёка ад адкрытага рэстарану), можна купіць памяткавую кашулю са сьцягамі сьвету, у тым ліку й бел-чырвона-белым з подпісам BELARUS, а таксама нагрудны значок у форме двух спалучаных сьцягоў — амэрыканскага й беларускага.

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыялямі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ

Шаноўныя суродзічы!

Напярэдадзе важная падзея — упяршыню на Бацькаўшчыне будзе адкрыта адзначацца слаўная дата нашай гісторыі: угодкі ў гонар Слуцкага збройнага чыну 1920 году. 28 лістапада ўшанаваць памяць паўстанцаў зьедуцца ў Слуцак прадстаўнікі грамадзкіх і палітычных арганізацый патрыятычнага накірунку, людзі, якім дарагая ідэя незалежнай дэмакратычнай Беларусі. Менавіта за гэтую ідэю на самым пачатку ўсталяваньня крывавай таталітарнай сыстэмы падняліся на змаганьне слуцкія паўстанцы, кінуўшы выклік імпэрыі, вядомай у гісторыі пад назовам СССР. Так, яны часткова палеглі ў няроўнай барацьбе, часткова былі асуджаны бальшавіцкімі судамі на пакараньне тут, на Беларусі, ці адпраўлены па этапах на пакутніцкае скананьне ў далёкіх сібірскіх лягерох. Але памяць пра мужных змагароў жыла ў народзе і сьвята шанавалася на эміграцыі. Вось чаму, дарагія суродзічы, мы хочам быць з вамі ў гэты дзень разам. Калі ў каго будзе нагода быць на Бацькаўшчыне — рады вас вітаць тут.

Але ў любым выпадку будзем адчуваць з вамі духоўную лучнасьць, з удзячнасьцю атрымаем да гэтага Дня прывітаньні, а таксама матэрыялы пра паўстаньне і ягоных удзельнікаў.

**Жыве Беларусь!**

Чакаем вашых пажаданьняў на адрас: 220053, Рэспубліка Беларусь, Менск, Даўгінаўскі тракт 52/9; тэл. і факс (0172) 37-91-87.

Старшыня Рады Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына»
**Аўген Лецка**

Старшыня Згуртаваньня Беларускіх Вайскоўцаў,
**падпалкоўнік Мікола Статкевіч**

## СТАН БЕЛАРУСКАГА ШКОЛЬНІЦТВА

**На жнівень 1992 г.**

Паводле апытаньня незалежнае сацыялягічнае службы «Адлюстраваньне» за травень 1992 г. (апытана паводле выбаркі 1976 чал. у населеных пунктах Беларусі розных тыпаў), у сталіцы Беларусі Менску, дзе 68,7% беларусаў і 20,8% расейцаў, з апытаных менчукоў 51,8% лічаць роднаю беларускую мову, а 36,7% — расейскую. 53,3% апытаных падтрымлівала дзяржаўнасьць беларускае мовы і толькі 4,1% выступалі за дзяржаўнасьць расейскае мовы.

Скасаваньне палітычных забаронаў і аслабленьне юрыдычных абмежаваньняў на навучаньне па-беларуску прывялі да надзвычайнае дынамікі росту беларускамоўных клясаў і школаў. Калі ў 1987-88 навучальным годзе ў гарадох Беларусі было дзевяць беларускамоўных клясаў, дык цяпер з 200 толькі менскіх школаў 34 лічацца беларускамоўнымі й мяркуецца пераход на бел. мову яшчэ 24 агульнаадукацыйных школаў. У 1991-92 навучальным годзе 69815 першаклясьнікаў (43,7%) навучаліся па беларускамоўнай праграме. 33,4% дашкольнікаў наведвалі беларускамоўныя ўстановы. Школьнікаў сярэдніх клясаў з расейскаю мовай выкладаньня ў 3,5 раза больш, чым школьнікаў беларускамоўных сярэдніх клясаў. Прычым, паранейшаму беларускамоўнымі найперш лічацца вясковыя школы. Так, падручнік па працоўным навучаньні для 5 клясы на беларускай мове адрасаваны па сваёй сельскагаспадарчай тэматыцы выключна вясковым дзецям, а расейскамоўны — выключна гарадзкім.'

Але за лічбамі гэтае статыстыкі хаваецца тое, што па-ранейшаму для беларускамоўнага выкладаньня прадметаў у сярэдняй школе няма кадраў, што шматлікія прадметы (сусьветная гісторыя, сусьветная літаратура, замежныя мовы — г. зн. тыя прадметы, якія арыентуюць носьбіта пэўнае культуры ў сьвеце й служаць інтэркультуральным мастом) мяркуецца выкладаць па-расейску й на грунце расейскіх падручнікаў. З агульнай колькасьці 650 падручнікаў, неабходных сярэдняй школе, толькі 150 друкавалі ў Беларусі. Астатнія 500 імпартавалі з Расеі.

**Вінцук Вячорка**

## АДКУЛЬ НА БЕЛАРУСІ АНТЫСЭМІТЫЗМ?

У амэрыканскім друку, у тым ліку ў англамоўным украінскім тыднёвіку The Ukrainian Weekly (No. 25, June 21, 1992), зьявіліся паведамленьні пра вынікі дэтальнага апытаньня, якое было праведзена ў сакавіку-красавіку сёлета на тэрыторыі былога Савецкага Саюзу Расейскім Цэнтрам Дасьледаваньня Грамадзкае Думкі й Рынку. Было апытана 3.965 асобаў. Пра выніку вывучэньня настрояў і паглядаў вялася гутарка на прэсканфэрэнцыі ў Маскве 11 чэрвеня сёлета.

У сьвятле праведзенага апытаньня Беларусь выглядае аднэй з найбольш антысэміцкіх рэспублік. Прычым антысэміцкія настроі ў Беларусі сёлета большыя, як у 1990 годзе. Узьнікае, зразумела, пытаньне: чым тлумачыцца рост антысэмітызму сярод традыцыйна талерантнай да іншых нацыянальнасьцяў Беларусі? Тут трэба адразу-ж заначыць, што рост антысэмітызму на Беларусі — гэта не абавязкава рост антысэмітызму сярод беларусаў. На Беларусі, як вядама, жывуць розныя нацыянальнасьці. Паводля перапісу 1989 году, беларусы станавілі 77,8%, усяго жыхарства, расейцы — 13,3%, палякі — 4,1, украінцы — 2,9, гэбрэі — 1,1, іншыя — 0,9. Тэарэтычна гаворачы, можна правесьці на Беларусі апытаньне і апытваць беларусаў у заніжанай прапорцыі. Гэта па-першае. А па-другое, трэба ведаць, што антысэмітызм на Беларусі быў заўсёды зьвязаны найбольш з расейскімі манархістамі, чарнасоценцамі і вялікадзяржаўнікамі, якіх і цяпер поўна на Беларусі. Вось што піша на гэтую тэму беларускі гісторык Павал Церашковіч у сёлетнім шостым нумары часапісу «Нёман»:

«У той час як за апошнія чатыры дзесяцігодзьдзі XIX ст. жыхарства Беларусі падвоілася, лік расейцаў (без стараавераў) пабольшаў у 23,5 раза. Паводля перапісу 1897 году, іх налічвалася 235 тысяч чалавек (3,6% жыхарства). Сацыяльны партрэт расейскай групы даволі паказальны: ейная ўдзельная вага сярод купецтва была ў тры разы вышэйшая, сярод дваранаў — у 5,5 раза, сярод духавенства — у 16 разоў вышэйшая, чымся ў цэлым па Беларусі. Расейцы складалі 19% усіх дваранаў, 10% купецтва, 46% чыноўнікаў і 54% духавенства...

«Пра іх, пра тое, што далі яны беларускай зямлі — гутарка асобная. Яшчэ раз працытую 'Вестник Западной России', дзеля таго, каб схарактарызаваць кірунак мэнтальнасьці 'западнорусов': 'У асяродзьдзі мясцовага праваслаўнага жыхарства ёсьць асобы, якія глыбока і зацята ненавідзяць палякоў і гэбрэяў, ненавідзяць ад усёй душы, з болем і асалодай'. Як кажуць, ні дадаць, ні адняць. Проста жахаешся, трэба-ж было гэтак прыдумаць — 'ненавідзець з асалодай'. Што-ж, школа нянавісьці дарам не прайшла. У 1905 годзе па гарадох усходняе Беларусі пракацілася хваля пагромаў. Менавіта на гэтых лекцыях асвойвалася тэорыя і практыка антысэмітызму. Будзьма шчырымі, стаўленьне беларусаў да гэбрэяў ніколі ня было адназначным, вобраз гэбрэя ў фальклёры, мякка кажучы, пазбаўлены прывабнасьці. Але, незважаючы на гэта, канфліктаў ня было ніколі. Больш таго, гэбрэй Самуіл Плаўнік, ведамы пад псэўданімам Зьмітрок Бядуля, стаўся адным з заснавальнікаў новае беларускае літаратуры. Зьява гэтая — унікальны фэнамэн, з майго гледзішча, у гісторыі сусьветнае культуры.

«Як-жа сталася, што ў Беларусі справа дайшла да масавых, зьверскіх забойстваў? Зьвярну ўвагу чытача на тое, што пагромы адбыліся на ўсходзе — у Рэчыцы, Гомелі, Воршы, Полацку. Менавіта тут русыфікацыя набыла найбольшыя маштабы: удзельная вага расейскага жыхарства ў Віцебскай губэрні, прыкладам, даходзіла да 8%, у гарадох да 16%. Не выпадкова, што якраз у гарадох усходняе Беларусі ў 1917 годзе паўсталі шмат якія 'западнорусские' арганізацыі... (172)

«Апошнімі гадамі ў рэспубліцы зьявіліся поўпадпольныя 'Русь', народнаправаслаўны саюзу 'Белая Россия', таварыства 'Отечество', рэспубліканскі філіял 'Памяти' і г.д. Пачытаеш іхныя лістоўкі, газэтныя публікацыі і адразу прыгадаеш знаёмую фізіяномію 'западноруса'. Тая-ж нянавісьць да беларускага руху, тая-ж гатовасьць у сваім ашалелым антысэмітызьме падтрымліваць любых падонкаў, аж да самага Садама Гусэйна. Што яшчэ зварачае на сябе ўвагу — гэта прачулае яднаньне на гэтай аснове з самай артадаксальнай часткай беларускіх камуністаў». (176)

## ФОНД СОРАСА Ў МЕНСКУ

На запросіны Міністэрства замежных спраў Беларусі ў верасьні сёлета (13-20.IX) наведала Менск дэлегацыя Фонду Сораса зь Нью-Ерку ў складзе выканаўчага дырэктара Антоні Рыхтэра, сп-чны Элізабэт Смэдлі, працаўніцы Фонду, і др. Янкі Запрудніка, кансультанта. Сорасаўскі Фонд займаецца дабрачыннай дзейнасьцяй на тэрыторыі Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, дапамагае спэцыялістам у паглыбленьні ведаў аб заходняй дэмакратыі, у пашырэньні дэмакратычных інстытутаў, у тым ліку незалежных сродкаў сувязі. Заснаваў і ачольвае гэты фонд сп. Джордж Сорас, ведамы амэрыканскі фінансіст і мысьліцель, выхаджэнец з Вэнгрыі. На тэрыторыі былога СССР Фонд Сораса мае пятнаццаць філіялаў, да ліку якіх далучыўся цяпер і філіял у Менску.

Дасюль Фонд Сораса выдаткоўваў у рэспубліках былога СССР — Расеі, Украіны й Прыбалтыкі — штагоду дванаццаць мільёнаў даляраў на розныя мерапрыемствы, зьвязаныя з дэмакратызацыйнымі працэсамі — пасыланьнем студэнтаў у заходнія ВНУ, навуковыя канфэрэнцыі, замежныя падарожжы маладых вучоных для ўдзелу ў міжнародных сымпозіюмах, разьвіцьцё незалежнага друку й да г.п.

Важная частка сорасаўскай праграмы — дзейнасьць Цэнтральна-Эўрапейскага Ўнівэрсытэту ў Празе й Будапэшце, дзе выкладаюць выдатныя спэцыялісты (выклады вядуцца па-ангельску) і куды, трэба думаць, здолеюць паехаць у недалёкай будучыні і студэнты зь Беларусі. Фонд Сораса памагае таксама экспэртызай у канстытуцыйных пытаньнях, вельмі важных цяпер для Рэспублікі Беларусі.

## ЗАКЛІК

Беларусі патрэбна сапраўдная нацыянальная адукацыя. Зразумела, што пасьля стольких гадоў гвалтоўнага перакручваньня дзіцячых мазгоў мы ня можам аздаравіць сытуацыю раптоўна. Але трэба пачынаць сягоньня. Ужо існуюць такія беларускія ліцэі, дзе бацькі аплочваюць навучаньне. Але што будзе з тымі дзецьмі, чые бацькі ня могуць гэтага зрабіць? Такая доля напаткае ў першую чаргу дзяцей у рабочых раёнах, бо вядома, там няма прэстыжу адукацыі.

Пэўныя крокі ў адраджэньні беларускасьці цяпер робяцца ў нашай школе, што знаходзіцца ў Чыжоўцы, дзе жывуць, у асноўным, рабочыя аўтазаводу. Але не хапае фінансавай падтрымкі з боку дзяржавы, бо яна сама знаходзіцца ў цяжкім эканамічным становішчы. Мы імкнемся стварыць такую беларускую школу, куды нашыя дзеці і іхнія бацькі захочуць прыйсьці з задавальненьнем. Для гэтага нам патрэбны грошы (на пачатак, па нашых разьліках, каля 10 мільёнаў рублёў), каб палажыць добрую заработную плату для самасьвядомых настаўнікаў, каб закупіць мэблю, тэхніку, каб праводзіць бягучыя рамонты будынку. Гэтым мы зробім інвэстыцыі на будучае.

Ад імя калектыву нашае школы зьвяртаемся да беларусаў ва ўсім сьвеце і да сяброў беларускай культуры па дапамогу. Грашовыя сумы просім дасылаць на імя прафэсара Джэймса Дынглі, віцэ-прэзыдэнта Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Ягоны адрас:

Prof. J. Dingley
School of Slavonic & East European Studies
University of London
Malet Street
London WCE 7HU
ENGLAND

Прапановы просім дасылаць на адрас школы:

Рэспубліка Беларусь
220296 г. Мінск
вул. Убарэвіча, 74
Сярэдняя Школа No. 131
Дырэктару

**Намесьнік дырэктара школы**
**Зянькоў Сяргей**

# БЕЛАРУСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ Ў БРУКСЭЛІ

На запросіны арганізацыі Міжнародны Хрысьціянскі Дэмакрат (МХД) у бэльгійскую сталіцу Бруксэлю прыбыла 1-га верасьня сёлета з шасьцідзённым візытам беларуская дэлегацыя ў складзе Зянона Пазьняка, старшыні Беларускага Народнага Фронту і народнага дэпутата Беларусі, Юрыя Хадыкі, заступніка старшыні БНФ, Лявона Баршчэўскага, народнага дэпутата Беларусі, і Пятра Сілкі, старшыні-каардынатара Беларускае Хрысьціянска-Дэмакратычнае Злучнасьці.

Праграма візыту, арганізаваная сп. Антонам дэ Мэюсам, палітычным дараднікам МХД для Ўсходняй Эўропы, была вельмі багатая, можна нават сказаць — перагружаная.

У сераду 2-га верасьня дэлегацыя наведала галоўную кватэру МХД, галоўную кватэру Народнае Эўрапейскае Партыі/Эўрапейскае Хрысьціянска-Дэмакратычнае Злучнасьці, правяла гутарку зь Янам Богартам, дырэктарам палітычнага аддзелу Міністэрства замежных справаў Бэльгіі, наведала Фэдэрацыю Бэльгійскіх Прадпрыемстваў, гутарыла са старшынём ФБП сп. Тоні Вандэпютам.

На наступны дзень адбылася сустрэча ў Арганізацыі Паўночна-Атлянтычнага Пакту (АПАП) з паслом А. дэ Франшысам, намесьнікам генэральнага сакратара АПАП, і сп. І. Крындлерам, памочнікам ген. сакратара, які займаецца палітычнымі справамі. Быў праведзены брыфінг на тэму «Абаронная палітыка і плянаваньне ў зьменлівым наваколльі». Сп. Пазьняк выступіў з дакладам пра палітычнае палажэньне і будучыню Беларусі, пасьля якога адбылася дыскусія.

Падчас наведаньня Эўрапейскага Парляманту дэлегаты гутарылі са спсп. Лео Тындэмонсам, старшынём групы хрысьціянскіх дэмакратаў (Эўрапейская Народная Партыя), і Стэфанам Більлерам, адказным за сувязі з краінамі СНД. Дэлегацыя наведала таксама флямандзкую сэкцыю Хрысьціянскай Народнай Партыі (ХНП) і Міністэрства Міжнародных Сувязяў французскае супольнасьці Бэльгіі.

У пятніцу ў Міжнародным Прэсавым Цэнтры адбылася прэсканфэрэнцыя. Быў наладжаны абед са сп. Жозэфам Мэртэсам, генэральным сакратаром Міжнароднага Хрысьціянскага Саюзу Кіраўнікоў Прадпрыемстваў. Дэлегацыя наведала таксама французскую сэкцыю ХНП і галоўную кватэру Фундацыі Зайдэля, гутарыла зь ейным дырэктарам Георгам Рэгацыні.

На прэсканфэрэнцыі сп. Пазьняк даў кароткі агляд палітычна-эканамічнага стану на Беларусі, падкрэсьліў, што, каб дасягнуць пазытыўных вынікаў рэформы, неабходна зьмяніць сёньняшні ўрад, які складаецца ў большыні з намэнклятуршчыкаў. Дзеля гэтага трэба правесьці рэфэрэндум, распусьціць цяперашні парлямант і правесьці дэмакратычныя выбары. Сп. Пазьняк зазначыў, што амаль ува ўсіх рэспубліках былога СССР адбываюцца рознага роду закалоты, тымчасам як на Беларусі пануе цішыня. Гэта значыць, сказаў лідэр БНФ, што Беларусь дасягнула палітычнай сьпеласьці. Таму ўдар па дэмакратыі ў Беларусі будзе ўдарам па ўсёй Эўропе. «Мы спадзяёмся, — сказаў прамоўца, — што атрымаем ад Захаду, асабліва ад Хрысьціянскае Дэмакратыі, неабходную дапамогу».

Адкрываючы частку прэсканфэрэнцыі «пытаньні — адказы», сп. Юры Хадыка адзначыў паралелізм паміж Беларусяй і Бэльгіяй: абедзьве краіны пачынаюцца на літару Б і сталіцы абедзьвюх — міжнародныя цэнтры: Менск — СНД, а Бруксэля — Эўрапейскай Супольнасьці.

Пра візыт беларускай дэлегацыі і ацэнку дэлегатамі палажэньня на Беларусі падала газэта «Ле Суар» (5 і 6. IX).

Не зважаючы на перагружанасьць праграмы, дэлегатам удалося спаткацца з групай беларусаў, што жывуць у Бэльгіі. Спатканьне адбылося ў доме сп-ні Зоі Смаршчок. Пасьля кароткага прывітальнага слова гаспадыні дому аўтар гэтых радкоў прадставіў кожнага з дэлегатаў і прывітаў іх ад імя ўсіх як «высокадастойных асобаў — беларусаў, зьвязаных з нашым нацыянальна-адраджэнскім рухам» і падкрэсьліў важнасьць дыпляматычных кантактаў з краінамі, што прызналі незалежнасьць Беларусі, а таксама адзначыў вялікі ўклад сяброў дэлегацыі ў змаганьні за сувэрэнітэт і поўную незалежнасьць Беларусі, падзякаваў ім ад імя ўсіх прысутных за нястомнае і бескампраміснае змаганьне. Была таксама выказаная падзяка сп-ні Смаршчок за шчырую гасьціннасьць і багатае прыняцьцё, якое дазволіла ўсім разам спаткацца і падзяліцца думкамі.

А думкамі дзяліліся доўга, хоць час быў абмежаваны. Усім нам, што жывуць у Бэльгіі, хацелася даведацца як мага больш аб тым, што дзеецца на Бацькаўшчыне, якую мы пакінулі 49 гадоў таму. Кожнаму з нас спатканьне гэтае застанецца назаўсёды ў памяці, магчыма як найважнейшае здарэньне ў палітычным жыцьці за межамі Беларусі.

Разьвітваючыся, усе пажадалі спаткацца на Беларусі, поўнасьцяй вольнай і незалежнай.

**Янка Жучка**

## АГЛЯД ПРЭСЫ

Бэльгійская газэта "La Libre Belgique" за 18 жніўня сёлета пад загалоўкам «БЕЛАРУСЬ — Каталікі акупоўваюць Менскі Сабор» падае наступнае:

Група каталікоў Менску, сталіца Беларусі, акупоўваюць ад апошняй серады (12 жніўн. — *рэд.*) іхны былы Сабор, пераменены за часамі Сталіна ў гімнастычную залю. Цяперашняе кіраўніцтва спартовае залі ня хоча перадаць гэтага будынку ягоным законным уласьнікам.

Каталіцкая парафія Менску гадамі стараецца, бяз вынікаў, вярнуць сабе гэтае месца культу, сканфіскаванае камуністычнымі ўладамі. Сабор гэты быў упяршыню ўжыты як гімнастычная заля ў 1951 годзе.

Каталіцкая супольнасьць Менску аскаржвае ўлады ў бязьдзейнасьці. Пад прэтэкстам няўмешваньня ў гэтую спрэчку, цьвердзяць веруючыя каталікі, улады, у сутнасьці, хаваюць нежаданьне направіць несправядлівасьць зробленую вернікам.

На дзесяцімільённае насельніцтва Беларусь налічвае прыблізна шэсьць мільёнаў праваслаўных і паўтара мільёны каталікоў.

**Я. Жучка**

### ПРА БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ ДАЧЫНЕНЬНІ

Выдаваны дасьледніцкім інстытутам радыястанцыі Вольная Эўропа-Свабода часапіс RFE/RL Research Report (№ 37, 18.IX) зьмясьціў грунтоўна ўдакумэнтаваны артыкул Стывэна Бюранта пра польска-беларускія дачыненьні, якія, кажа аўтар, спрыяюць стабілізацыі ў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропе.

# БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЬЦЯГ У КРАЯВІДЗЕ ВАРШАВЫ

Беларуская нацыянальная меншасьць у Польшчы перажывала ў паваенным пэрыядзе розныя этапы лёсу, у залежнасьці ад зьменлівай палітыкі краіны.

На зьмену шавіністычнаму тэрору, што акрывавіў вёскі Падляшша ў другой палавіне 1940-х гадоў, пераломам палавіны дваццатага стагодзьдзя характарызаваўся заняпадам грамадзкага й культурнага жыцьця беларусаў у Польшчы, калі не сказаць — частковай яго канспірацыяй.

Палітычная «адліга», што наступіла ў 1956 годзе, спрычыніла, безь перабольшаньня, выбух грамадзкай думкі і дзейнасьці, як выявілася, скансалідаванай беларускай нацыянальнай меншасьці. Як фэнікс з попелу, адрадзілася літаратурная, фальклёрная дзейнасьць, школьніцтва, прэса, наагул культура.

Сытуацыю зьмяніла абвешчаньне палітычным лідэрам Польшчы 1970-х гадоў тэзісу аб этнічнай аднароднасьці польскага грамадзтва, аб нацыянальным маналіце краіны. Ажыцьцяўленьне гэтага лёзунгу прапагандай ня толькі прыпыніла, але й давяло да зьнішчэньня дасягненьняў, між іншага, у галіне культуры беларускай меншасьці, як прыкладам, да ліквідацыі беларускага музэю, ці слаўных у тым часе фальклёрных калектываў, да заняпаду беларускага школьніцтва й г.д.

Рух польскай «Салідарнасьці» ў 1980-х гадох, з аднаго боку, прывёў да скону рэжыму, які зацiскаў свабоду думкі, слова, а тады — і культурна-грамадзкую дзейнасьць, а з другога боку — züктывізаваў сілы варожыя, між іншага, нацыянальнаму і канфэсійнаму руху беларусаў, штó час ад часу адчувалася даволі балюча.

Гэтая згушчаная, лякалічная характарыстыка сытуацыі беларускай нацыянальнай меншасьці ў Польшчы ў пасьляваенным пэрыядзе пацьвярджае залежнасьць беларускай грамады ў Польшчы ад зьменлівых палітычных кірункаў, а нават ад погляду таго ці іншага палітычнага лідэра. Ня маючы падтрымкі з боку Бацькаўшчыны, інтарэсы меншасьці дый сама яна маглі быць лёгка сьпіханыя да пазыцыі суб'екта, якім можна было маніпуляваць залежна ад волі таго, хто меў уладу.

Вызваленчыя працэсы, што агарнулі краіны былога савецкага рэжыму, у тым ліку й Беларусь, спрычынілі нечаканыя зьмены ў дачыненьнях паміж суседнімі народамі і краінам Ўсходняй Эўропы. Фармальнае абвешчаньне Беларусі сувэрэннай дзяржавай у жніўні 1991 году, прызнаньне яе незалежнасьці Польшчай у сьнежні 1991 году, два візыты ў Польшчу прэм'ера Рэспублікі Беларусь Вячаслава Кебіча і міністра замежных справаў Пятра Краўчанкі, падпісаньне дагавору аб супрацоўніцтве, пагадненьне аб дыпляматычных адносінах і консулярнай канвэнцыі, дагавор аб трансгранічным супрацоўніцтве, аб змаганьні з праступнасьцю, заснаваньне польска-беларускага камэрцыйнага банку, пагадненьне аб магчымасьці карыстаньня Беларусьсю з гданьскага порту — усё гэта сьветчыць аб ажыўленьні польска-беларускіх кантактаў, у кожным выпадку — аб пашырэньні фармальных дачыненьняў паміж Варшавай і Менскам.

Належная ўвага была прысьвечана й нацыянальным меншасьцям: польскай на Беларусі і беларускай у Польшчы. Узгодненьні прынцып парытэту ў гэтых адносінах далёкі, праўду кажучы, ад раўнавагі і выглядае больш-менш як 20:1 у карысьць Польшчы, тым ня менш статус беларусаў у Польшчы зьмяніўся дзякуючы галоўным чынам нябывалай дагэтуль зацікаўленасьці ўладаў Рэспублікі Беларусь праблемай суайчыньнікаў за межамі краіны.

Кульмінацыйным пунктам у адносінах паміж Польшчай і Беларусьсю быў візыт у Польшчу Старшыні Вярхоўнай Рады РБ Станіслава Шушкевіча 23-25 чэрвеня 1992 г. ды падпісаньне ім і Прэзыдэнтам Польшчы Л. Валэнсам трактату аб добрым суседзтве і прыязным супрацоўніцтве (у якім прысьвечана, між іншага, увага і нацыянальным меншасьцям).

Самым важным аднак фактам сталася ўрачыстае адкрыцьцё пасольства РБ у Варшаве — першага на той дзень пасольства незалежнай Беларусі ў сьвеце — і назначэньне сп. Уладзімера Сенько паўнамочным пасло́м у Польшчы. Як-бы ні ацаняць тую незалежнасьць, далёкую яшчэ ад ідэалу, то аднак нельга пераацаніць гістарычнага значэньня гэтага факту. Такім чынам, бел-чырвона-белы сьцяг стаў элемэнтам краявіду Варшавы, а мамэнт падняцьця дзяржаўнага штандару пад гукі гімну (хоць яшчэ зусім нязнанага), выкананага вайсковай аркестрай, выклікаў не абы-якое ўражаньне прысутных прадстаўнікоў: кіраўніцтва польскай і беларускай дзяржаваў, палітыкаў, сьвету культуры і немалога ліку жыхароў Варшавы, што выказалі пашану гімну й сьцягу незалежнай Беларусі ў мамэнце падняцьця сьцягу.

Не абыйшлося, зразумела, бяз прысутнасьці беларусаў — жыхароў Польшчы. Гэтыя, бязумоўна, найбольш эмацыянальна і згодна перажылі тут тое гістарычнае для Бацькаўшчыны здарэньне, не спамінаючы ўжо пра ўзрушэньне тых, для якіх незалежнасьць краіны была жыцьцёвым імкненьнем, марамі, пасіяй жыцьця, а мо й жыцьцёвай апантанасьцю ды балючай памяцьцю аб тых, што перацярпелі мукі й сьмерць, каб жыла Беларусь.

Насуперак усім нягодам Беларусь жыве.

**Янка Жамойцін**

## КЕМБРЫДЖ ПРА БЕЛАРУСЬ

У выдавецтве Кембрыджскага ўнівэрсытэту выйшлі дзьве кнігі, прысьвечаныя дзяржавам былога Савецкага Саюзу. У кнігах пішацца і пра Беларусь. У аднэй зь іх, пад заг. «Нацыі й палітыка ў савецкіх дзяржавах-спадкаёмцах» *(Nations and Politics in the Soviet Successor-States.* Ed. by Ian Bremmer and Roy Taras), разьдзел пра Беларусь напісалі праф. Майкл Урбан і др. Янка Запруднік. Пра Беларусь пішацца і ў другой, што загалоўленая «Ад Саюзу да Супольнасьці Дзяржаваў. Нацыяналізм і сэпаратызм у савецкіх рэспубліках» *(From Union to Commonwealth: Nationalism and Separatism in the Soviet Republics.* Ed. by Gail Lapidus and others).

### *«БЕЛАРУСЬ» ПА-АНГЕЛЬСКУ: BELARUS*

Бібліятэка Кангрэсу ЗША разаслала 17 чэрвеня сёлета іншым бібліятэкам інструкцыю аб канчальнай форме трансьлітарацыі назову «Беларусь» па-ангельску: BELARUS (заміж Byelarus). Пастанова была прынятая на рэкамэндацыю Дзяржаўнага Дэпартаманту, які пайшоў у гэтым пытаньні насустрач пажаданьню ўраду Беларусі. Дзяржаўны Дэпартамант таксама запатрабаваў, каб Камісія (Board) Геаграфічных Назоваў ЗША ўжывала форму BELARUS.

*З жыцьця беларусаў Францыі*

## ПАСЯРЭДНІЦТВА БЕЛАРУСАЎ ПАРЫЖА

Хоць беларусаў у Францыі мала, але яны апошнім часам вельмі актыўныя ў разьвіваньні афіцыйных сувязяў паміж Рэспублікамі Беларусь і Францыя. Гэтак, прыкладам, калі ў чэрвені сёлета ў ЮНЭСКА ў Парыж прыбыла зь Менску дэлегацыя ў складзе спсп. Міхася Дзямчука, заступніка старшыні СМ Беларусі; Аляксандра Міхалевіча, дырэктара Інстытуту Энэргетыкі АН, і Ўладзімера Заблоцкага, народнага дэпутата Беларусі і заступніка старшыні БНФ, беларусы Парыжа дапамаглі дэлегатам наладзіць спатканьні з прадстаўнікамі францускіх фірмаў, якія бяруць актыўны ўдзел у тэхнічнай падтрымцы Беларусі.

З нагоды прыезду дэлегацыі парыжскія беларусы мелі прыемнасьць наладзіць для гасьцей прыняцьцё ў памешканьні свайго «Хаўрусу». На прыняцьцё была запрошаная таксама сп-ня Ніна Мазай, беларускі пасол у Францыі, і ейныя супрацоўнікі сп-тва Юшкевічы. Група пабольшылася прысутнасьцю калішніх парыжанак, а цяпер жыхарак Канады і Злучаных Штатаў, сп-няў Івонкі Сурвілы і яе дачкі Паўлінкі з мужам Эрыкам. Спатканьне прайшло ў вельмі цёплай атмасфэры. Падчас вячэры ўсе прысутныя цешыліся і жадалі, каб такія сувязі расьлі й замацоўваліся.

Другой важнай падзеяй на пачатку ліпеня быў прыезд у Парыж сп. Станіслава Язуты, Міністра будаўніцтва й эксплаятацыі дарог Беларусі, і Валерыя Лапы, дырэктара дарог Віцебскага раёну, на перамовы з прадстаўнікамі Міністэрства абсталяваньня, жыльля і транспарту і арганізатараў эксплаятацыі дарог Францыі. У выніку гэтага спатканьня быў падпісаны, на беларускай і французскай мовах, пратакол аб узаемным супрацоўніцтве. (Раней усе дакумэнты ў Францыі для Беларусі пісаліся па-францускую і парасейску). Адным з пасярэднікаў у гэтым спатканьні быў наш сябра, інжынер Лявон Шыманец. Тут трэба зазначыць, што якраз ён, Лявон Шыманец, зрабіў найбольшы ўклад у гэтае спатканьне паміж прадстаўнікамі міністэрстваў Францыі і Беларусі ды браў таксама ўдзел у падпісаньні дагавораў.

**М. Н.**

## 110-ГОДЗЬДЗЕ ЯНКІ КУПАЛЫ Й ЯКУБА КОЛАСА



У ААН адбыўся 22.IX.92 вечар, прысьвечаны Я. Купалу й Я. Коласу. Прамаўлялі на вечары Міністар замежных спраў РБ Пётр Краўчанка й пасол Беларусі ў ААН Генадзь Бураўкін. У канцэртнай частцы праграмы ўзялі ўдзел (на здымку зьлева) Аўген Магаліф, Зьміцер Яўтуховіч, Леанід Пранчак, Мікалай Скорыкаў, Іна Афанасьева і Тацьцяна Мархель. З дэкламацыяй свайго верша выступіў таксама Сяржук Сокалаў-Воюш.

## У БЕЛАРУСКІМ ЗГУРТАВАНЬНІ Ў КВЭБЭКУ



У залі царквы Сьв. Патронкі Марыі ў Размонье 5 красавіка былі адзначаныя ўгодкі незалежнасьці Беларусі. У ўрачыстасьці ўзялі ўдзел Мітрапаліт БАПЦ Мікалай і сп. М. Ганько, старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады. Пасьля багаслужбы адбылася акадэмія, якую адчыніў старшыня Беларускага Згуртаваньня ў Квэбэку (БЗК) сп. Анатоль Хрэноўскі. З дакладам выступіў сп. Ганько. Акт 25 Сакавіка па-ангельску й па-француску прачыталі Рыгор Хрэноўскі, скарбнік БЗК, і Хрыстына Хрэноўская. Галіна Хрэноўская, сакратар БЗК, прадэклямавала верш А. Гаруна «Ты мой брат». З дуэтам («Люблю наш край» і «Зорка Вэнэра») выступілі Антон Хрэноўскі (акардыён) і Марліна Эліяс (піяніна). Рыгор Хрэноўскі чытаў вершы Янкі Купалы, а Ўладзімер Бяльмач — свае вершы пра Беларусь і чарнобыльскую катастрофу. Да сьвяткаваньня была наладжаная Х. Хрэноўскай выстаўка беларускіх мастацкіх вырабаў.

## ЧАРНОБЫЛЬСКІЯ ДЗЕЦІ Ў АЎСТРАЛІІ

Заўсёды, калі толькі заходзіць гутарка аб пасьляаварыйнай бядзе на Беларусі, у мяне ўзьнікае рад пытаньняў: Ці ёсьць на сьвеце мера, якою можна было-б вымераць спрычыненую шкоду беларускаму народу і Беларусі выбухам на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі? Хто нясе за гэта адказнасьць? І чаму краіны, якія перабралі маёмасьць Міністэрства атамнай энергетыкі былога СССР пакінулі беларускі народ, каб шукаў паратунку сам ад бяды, якую ён не спрычыніў? Пытаньні, пытаньні, пытаньні..., на якія павінны адказаць тыя, на чыім сумленьні ляжыць сучаснае гора нашага народу і Бацькаўшчыны.

Зусім інакш да бяды Беларусі аднесьліся заходнія краіны (хоць спачатку камуністычны ўрад БССР гэтага не хацеў), мала-памалу ў рознай форме пачалі дасылаць дапамогу, прывозіць у свае краіны дзетак з заражаных радыяцыяй раёнаў Беларусі. Сёлета зь ініцыятывы Аўстралійскіх скаўтаў 259 дзяцей зь Беларусі і Ўкраіны ад 23-га чэрвеня да 27-га ліпеня былі на адпачынку ў Аўстраліі. У Пэрце іх было 24 і чатыры перакладчыкі.

Сустрэча зь дзецьмі выклікала ня толькі радасьць, але і трывогу. Трывогу за тое, што па чатырох тыднях, яны ізноў мусяць вяртацца на Бацькаўшчыну, дзе на іх чакае радыяцыя, тая-ж ежа... і ніякай надзеі на лепшае заўтра...

У часе побыту-адпачынку, якога яны ніколі не забудуць, яны жылі ў сем'ях розных нацыянальнасьцяў: аўстралійцаў, немцаў, італьянцаў і галяндцаў. На вялікі жаль, да беларусаў ня было прыдзелена аніводнае дзіцё. Аднак і гэткі стан ня выклікаў у нас абыякавасьці, аб чым сьветчыць ліст-падзяка атрыманы старшынём Б.А. у З.А. ад каардынатара Чарнобыльскага праекту Аўстралійскіх скаўтаў сп. Іена Бэнпораса.

**Р.М.**

### АХВЯРЫ НА БЕЛАРУСКІЯ РАДЫЯПРАГРАМЫ Ў ПЭРЦЕ (ЗАХ. АЎСТРАЛІЯ)

| | |
|---|---|
| Сп-ня Марыя Мароз | дал. 30 |
| Сп. Алекс Мароз | 30 |

Шчыры дзякуй за дапамогу

**М. Раецкі,**
**старшыня Бел. радыёвага к-ту**

## ПРАМОВА ПАСЛА БЕЛАРУСІ ГЕНАДЗЯ БУРАЎКІНА

**на ўрачыстасьці ў ААН, прысьвечанай 110-годзьдзю ад нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа, 22 верасьня 1992 г.**

Высокашаноўныя госьці!
Паважаныя спадарыні і спадары!
Дарагія суайчыньнікі!

Дзякую вам, што прыйшлі ў гэтую ўтульную і гасьцінную залу, каб аддаць ціхую даніну ўдзячнасьці воламтам беларускага народнага духу, яго песьнярам і змаганцам — Янку Купалу і Якубу Коласу.

Кожнаму з нас лёс адводзіць свой зямны куток, дзе дае бясцэнны дар жыцьця і непаўторную матчыну ласку, родную мову і сьвятое адчуваньне ўласнай годнасьці. А вось неба над намі даецца на ўсіх адно — неабдымнае і загадкавае, глыбокае і неспазнанае, адкуль зоркі сьвецяць, не зважаючы на дзяржаўныя межы і розьніцу ў людзкіх характарах, ня слухаючыся грозных валадароў і хуткаплынных зьмен.

Нібы адчуваючы нейкую віну за шматвекавую цяжкую і маркотную долю Беларусі, 110 гадоў назад Бог шчодра кінуў сваю зыркую іскру адразу ў дзьве душы мужычых сыноў — і ў сьвет прыйшлі два нацыянальныя геніі, а на небасхіле культуры людзтва ўспыхнулі дзьве найярчэйшыя зоркі беларускай літаратуры.

Людвіг Фэербах некалі пісаў, што таленты заўсёды зьяўляюцца тады, калі ў іх ёсьць гістарычная патрэба. Янка Купала і Якуб Колас і творчасьцю, і ўсім сваім жыцьцём пацьвердзілі гэта. Яны ўзьнялі паходню свайго мудрага слова на пераломе сацыяльных эпох, у пэрыяд, названы першай рускай рэвалюцыяй, калі той-сёй з цароў і царанят ставіў сьмешнае, як на сёньняшняе разуменьне, пытаньне: а ці ёсьць такі народ — беларускі, а ці патрэбная такая мова — беларуская? Ёсьць! Патрэбная! — разам з Максімам Багдановічам, Цёткай, Алесем Гаруном адказалі Купала і Колас і даказалі гэта перш за ўсё самім беларусам, а пасьля і ўсяму сьвету. Ёсьць народ, калі ён нараджае такіх геніяў. Патрэбная мова, калі на ёй можна ствараць сапраўдныя шэдэўры...

Яны розныя, заснавальнікі новай беларускай літаратуры, і як асобы, і як творцы: парывісты, тэмпэрамэнтны, узьнёслы Янка Купала; ураўнаважаны, дыхтоўны, падкрэслена рэалістычны Якуб Колас. Адзін — вястун і прарок, другі — летапісец і філосаф. І калі ў першага ў шчасьлівым яднаньні духоўнага і матэрыяльнага, што, дарэчы, дадзена зразумець, асэнсаваць і выказаць толькі нямногім, наперадзе звычайна ідзе духоўнае, то ў другога — матэрыяльнае. Але ў абодвух пры гэтым пульсуе тонкае адчуваньне душы чалавека і дакладнае веданьне яго нага побыту, працы, узаемадачыненьняў і ўзаемадзеяньня з прыродай і зямлёй. Як і ўва ўсіх геніяў, часовае ў іх зьліта зь вечным, нацыянальнае — з агульначалавечым, асабістае — з усеагульным.

Зямное жыцьцё сваё яны скончылі па-рознаму: адзін трагічна загінуў на чужой зямлі літаральна за два дні да ўрачыстага вечара, прысьвечанага сталаму 60-годзьдзю, другі адплыў у вечнасьць на плячах сяброў і правадыроў, трохі не дажыўшы да салідных 75 год. Але колькі ў іх было роднаснага і аднолькавага — і ў трывогах, і ў парываньнях, і ў горкіх развагах! Горача і самаахвярна любілі яны і пясчаную сваю зямельку, і цягавітага ды маўклівага свайго братку-беларуса, і поўную хараства і замілаваньня матчыну песьню.

Дзеля гэтай любові спазналі і перажывалі яны і крывавыя пісягі царскай цэнзуры, і абразьлівыя зьдзекі сталінскіх катаў, і палыновую горкоту расчараваньняў і адчаю. Бог даў ім рэдкі талент, але і дастаткова выпрабаваў на трывушчасьць і на адданасьць Бацькаўшчыне. Можа, таму часам і здаюцца іх чыстыя зоркі дзьвюма яснымі сьлязінамі.

Геніі могуць быць незразумелымі або недаацэненымі пры жыцьці, але шчасьце народнага прызнаньня і праклaненьня ніколі не абмінае іх, бо ёсьць-жа ў сьвеце, у якім мы жывём, найвышэйшая справядлівасьць. Яна можа запазьніцца, але яна ёсьць. І тады шчасьце паэтаў становіцца шчасьцем Радзімы, якой яны аддалі ўсё, што мелі, і нават болей таго. Янка Купала й Якуб Колас пры жыцьці пасьпелі адчуць народную любоў і Ўдзячнасьць. Ім пашанцавала: іх асабістае шчасьце ўжо тады станавілася шчасьцем Радзімы. Але толькі з гадамі пачынаем мы разумець глыбіню іх азарэньня і вышыню іх узьлёту...

І калі вам закарціць паўзірацца ў прасторнае неба духоўнасьці, якое атуляе ўсіх нас і кліча да вышыні, успомніце, што ў сузор'і Пушкіна, Шаўчэнкі, Міцкевіча, Уітмэна ёсьць і зоркі з простымі беларускімі імёнамі — Янка і Якуб. Пакланіцеся ім. Яны вартыя таго...

Сяржук Сокалаў-Воюш

## КАЛЮМБАЎ ДЗЕНЬ

Калюмбаў Дзень, Калюмбаў Дзень,
Заранкі зыркая ірдзень,
Вятрыска веры і надзей
і кліча, і вядзе.
У чыстай памяці людзей
Ён чысты ветразь на вадзе
І золкаў сьветлы цень
Калюмбаў Дзень, Калюмбаў Дзень.
Агонь на шчацэ,
Шумлівы прыбой,
Рука у руцэ
І ноч варажбой,
Мы побач з табой.
Мы — зоркі зь нябёс,
Мы — два караблі,
Шчасьлівы наш лёс,
Бо нам на зямлі
Маяк запаліў:
Калюмбаў Дзень, Калюмбаў…

Як птушка зямля
За сьпінамі ў нас,
Што будзе пасьля —
Загадваць ня час:
Маяк не пагас.
І плыні вякоў,
Як плыні вады,
Каханьне й любоў
Нясуць праз гады,
Бо з намі заўжды:
Калюмбаў Дзень, Калюмбаў…

## ПРЭМ'ЕРА ПЕСЬНІ



Іна Афанасьева і Мікалай Скорыкаў на канцэрце ў Саўт-Рывэры 27 верасьня выконваюць упяршыню новую песьню «Калюмбаў дзень», напісаную кампазытарам Аўгенам Магаліфам на словы Сяржука Сокалава-Воюша.

*Уражаньні ад наведаньня Беларусі*

## «МЫ КВЕТКІ АДНАГО ПОЛЯ»

З маленства марыла я пабачыць сваю Беларусь. Я бачыла ў снах ейныя маляўнічыя краявіды, уяўляла рэчкі, вазёры — невялічкія, чыстыя, якія адлюстроўваюць у сабе яе сіняе, чароўнае неба. Уяўляла магутныя клёны, верхавіны дубоў, якія ціха перашэптваліся і бачыла як празь іх галіны прабіваецца сонца і яснымі плямамі кладзецца на сонную траву. Мама магла гадзінамі расказваць пра сваё жыцьцё на Беларусі і яно праплывала перад маімі вачыма, нібы я была разам зь ёй, і ўсё мне здавалася казачна прыгожым і таямнічым.

І ніколі, нават у сваіх лепшых мроях не ўяўляла я сабе, што аднойчы здолею апынуцца на Бацькаўшчыне, якую ўжо на працягу доўгіх шасьці гадоў труціць радыяцыя, нішчыць яе зямлю і народ. Рэчкаю льюцца сьлёзы людзей, што глядзяць на малых дзетак, якіх забівае чарнобыльскі пыл. Ніколі не ўяўляла я сабе, што пабачу смутак у дзіцячых вачах і што маё мацярынскае сэрца будзе сьціскацца ад жалю і болю.

Колькі нас, блізкіх, зьвязаных адно ймі карэньнямі людзей, параскіданых па ўсёй зямлі — у Францыі, Аўстраліі, Канадзе, Амэрыцы… І многія шчыра жадаюць шчасьця й добрай долі сваёй краіне. Я адчула гэта, калі першы раз паехала на Бацькаўшчыну. Калі любіш Беларусь, ня трэба аб гэтым гаварыць, трэба ўсё рабіць для яе.

Чым больш я думала пра сваю Радзіму, тым больш расло жаданьне пабачыць яе. Думка пра тое, як дапамагчы, кроіла душу і розум. І тады я зьвярнулася да сваіх знаёмых, сяброў, сваякоў з просьбай аб дапамозе. Каб хоць на крыху аблегчыць тыя пакуты, якія зваліліся на плечы майго народу, была запачаткаваная акцыя дапамогі, якая, дзякуючы сп-ні Валянтыне Гром і сп-ні Юзі Найдзюк, што зьбіралі сродкі, стала магчымай.

Я ведала, што мы толькі маленькія пчолкі ў полі надзей. Але-ж мяне цешыла мажлівасьць сказаць, што гэта толькі пачатак нашай дабрачыннай дапамогі.

Менск сустрэў мяне нязвычайна прыгожым надвор'ем, шумлівымі і вясёлымі групамі людзей. І мяне апанавала дзіўнае нерэальнае пачуцьцё, быццам я добра ведаю гэтыя родныя мясьціны. Я хадзіла вуліцамі, углядалася ў твары людзей, размаўляла, і радасьць захлынула мяне, я адчувала сябе патрэбнай тым людзям, якім мы памагалі.

Першым быў сірацінскі дом. Я прывезла туды лекі, вітаміны, цацкі для дзетак. І ўпяршыню пабачыла сапраўдны твар Чарнобыля. Дзеткі, якія знаходзіліся там, былі калекі: у каго ручкі, у каго ножкі няма…

Цяпер на Беларусі 500.000 дзяцей маюць хранічныя саматычныя захворваньні. 200.000 дзяцей маюць павялічаную шчытавідную залозу, што можа быць паказьнікам масавага захворваньня ракам. Каля 7.000 дзяцей нарадзіліся з рознымі формамі спадчыннай паталёгіі. Жудасна становіцца, калі падумаць пра гэта. Але-ж гэта рэальнасьць.

Мы былі ў трох школах, дзе раздавалі абутак. Дзеткі самі прыходзілі мераць, выбіраць. Колькі радасьці й надзеі было ў іхных вачах! Заходзілі вясковыя людзі, якія даведаліся пра дапамогу, бралі лекі для людзей, пра якіх ведалі, што яны хворыя.

Быццам у сьне, так хутка праляцеў час на Беларусі.

І ў любым куточку, дзе-б ні закідаў мяне лёс, я чула толькі словы шчырай падзякі ўсім людзям, якія дапамагаюць ратаваць жыцьцё нашага народу.

Вялікі Вам дзякуй, дарагія мае, спсп. Пётра Ганэцкі, Марыя Клішэвіч, Канстантын Стасевіч, Ната Кавецкая, Марыя Панава, Раіса Гэлінкс, Валянтына Гровэ, Юзя Найдзюк і Сяргей Карніловіч, за падтрымку, за Вашу шчырую душу й сэрца.

Далёка ад нас Беларусь, але-ж сэрца наша там.

Жыве Беларусь!

Кліўленд, ЗША

**Іра Каляда-Сьмірнова**

## ДЗЕЦІ ЗЬ БЕЛАРУСІ Ў ВЯЛІКАБРЫТАНІІ



*Група беларускіх дзяцей на адпачынку ў вёсцы Нэдэрбуры ў Валіі пад кіраўніцтвам сп-ні Марыі Міцкевіч (чацьвертая зьлева).*

На запросіны дабразычлівых людзей гэтай краіны, на пачатку ліпеня прыбыла група 20-ці школьнікаў на месячны адпачынак. Дзесяць дзяцей з кіраўнічкай былі разьмешчаны ў Валіі, а другіх дзесяць з кіраўнічкай спн-яй Марыяй Міцкевіч — у паўдзённа-заходняй Англіі ў вёсцы Нэдэрбуры, 250 км ад Лёндану і блізу месца пабыту аўтара гэтых радкоў.

Вёска невялікая, з прыгожымі каменнымі дамамі і вялікімі агародамі. Навакол вёскі высокія ўзгоркі. Тут такі супакой… Хіба цяпер вяскоўцы адчулі нейкае ажыўленьне — гэта галасы дзетак, што вярталіся са штадзённых экскурсіяў.

Дзеці вырозьніваліся між сабой ня толькі векам (ад 10 да 16 год), але й настроем: чацьвёра зь іх зь сірацінца, рэшта мелі бацькоў, хоць сярод гэтых ня ўсе размаўляюць па-беларуску, аднак разумеюць.

Дзеці жылі ў сем'ях, пры кожнай сям'і па двое. Вечарамі зьбіраліся ў доме сп-ні А. Саўндэрс, дзе займаліся рознымі гульнямі, і якраз тут сп-ня М. Міцкевіч падрыхтоўвала іх да вечара самадзейнасьці, які адбыўся 27-га ліпеня, калі яны выступілі пад бел-чырвона-белым сьцягам, каб вершамі Максіма Багдановіча, Янкі Купалы й Якуба Коласа ды танцам «Лянок» выказаць прыязным сем'ям і жыхаром гэтае вёскі сваю ўдзячнасьць за мілы тут адпачынак.

Словы ўдзячнасьці у ангельскай мове выказала сп-ня М. Міцкевіч. Яе ўзрушыў так добра падрыхтаваны вяскоўцамі вечар зь ядою і пітвом.

Напрыканцы прамаўляў старшыня Камітэту дапамогі ахвярам чарнобыльскай радыяцыі, а. Аляксандар Надсон. Ён паясьніў патрэбу дапамогі мэдыцынскай і харчавой для пацярпелай ад радыяцыі васемсоттысячнай масы моладзі.

Месячны пабыт у чыстым асяродзьдзі і добрае чыстае харчаваньне ствараюць маладому арганізму імунітэт на працягу аднаго году.

Група гэтых дзяцей разам з дарослымі і моладзьдзю гэтай вёскі правялі вясёла свой вечар пад музыку зь беларускіх касэтак, пераважна Данчыка. На адзін тыдзень, перад адлётам у Беларусь, дзеці завіталі ў Фінчлей, што ў Лёндане, дзе ім таксама былі створаныя адпаведныя ўмовы.

Варта тут выказаць удзячнасьць спні Марыі Міцкевіч за тое, што яна змагла так апекавацца дзецьмі і ўзгадоўваць іх у беларускім нацыянальным духу.

**А. Здановіч**

## ПРА ЭМІГРАЦЫЮ Ў МІНІСТЭРСТВЕ ІНФАРМАЦЫІ

Газэта «Зьвязда» (23.IX) зьмясьціла вялікі артыкул Тацьцяны Антонавай пра выступленьне ў Міністэрстве інфармацыі Беларусі сп. Янкі Запрудніка, які гаварыў перад працаўнікамі міністэрства пра беларускую эміграцыю, нацыянальную сьвядомасьць беларусаў, 20-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ды палітычныя праблемы, зьвязаныя з заплянаваным на 1993 год сусьветным зьездам беларусаў, пра пытаньне выхаду Беларусі ў сьвет, беларускую журналістыку ды іншые.

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ СЬВЕДАМАСЬЦЬ — ЦЭНТРАЛЬНАЯ ТЭМА

Больш за 80 дакладаў было прачытана на міжнароднай канфэрэнцыі, што адбылася ў Маладэчне 19-20 жніўня сёлета і была прысьвечаная тэме: «Фармаваньне і разьвіцьцё нацыянальнай сьведамасьці беларусаў». Адным з арганізатараў канфэрэнцыі быў Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку. Ягоны прадстаўнік, др. Янка Запруднік, узяў удзел у канфэрэнцыі з дакладам на тэму «Беларускае дваранства і родная мова». Тэкст дакладу зьмясьцілі менскія газэты «Свабода» (№ 7-8, верасень) і «Наша слова» (№ 37, 16.IX). У расейскім перакладзе ён меўся быць надрукаваны ў часапісе «Нёман».

Інтэрв'ю з Запруднікам на тэму ягонага дакладу зьмясьціла менская газэта «Добры вечар» (25.VII).

## СТАТЫСТЫКА БЕЛАРУСАЎ ЛЕТУВЫ

Вільня й Віленшчына, дзе апошнім часам актывізавалася беларускае жыцьцё, сталіся частым аб'ектам зацікаўленьня з боку сучасных беларусаведаў, а таксама палітыкаў. Тое самае трэба сказаць і пра палякоў.

У вялікім артыкуле Пятра Эбэргардта ў часапісе «Пшэглёнд Всходні» пад заг. «Зьмены нацыянальнасьцяў на Літве ў XX ст.», аўтар падае статыстыку беларусаў у Летуве: у 1970 г — 45,4 тыс. (1,3% ад усяго жыхарства), у 1979 г. — 57,6 тыс. (1,8%), у 1989 — 63,1 тыс. (1,7%). З гэтага апошняга ліку, 63,1 тыс., беларускую мову ўважалі роднай мовай 25.560 беларусаў, расейскую мову — 33,695, летувіскую — 1.591, іншыя мовы — 2.323 беларусы.

Трэба меркаваць, што ў выніку здабыцьця Летувой незалежнасьці, летуванізацыі, пэўнай актывізацыі беларускага жыцьця як на Віленшчыне, гэтак і ў Беларусі, адбудуцца зьмены і ў паглядах беларусаў на сваю мову. Дачыненьне іх да свае роднае мовы будзе ў ладнай меры залежаць ад таго, наколькі Менск і беларуская дыяспара дапамогуць віленскім беларусам у іхных грамадзка-культурных патрэбах, асабліва ў галіне беларускага друку і школьніцтва, якое ставіць свае першыя крокі.

## «ВІЛЬНЯ І КРАЙ» № 1

У Вільні ў жніўні сёлета выйшаў першы нумар тыднёвіка «Вільня і Край». Гэта — выданьне газэты «Наша Ніва». На васьмёх старонках малога фармату зьмешчаныя хроніка й артыкулы, у якіх адлюстраваныя праблемы беларусаў Віленшчыны. Рэдакцыя кажа сваім чытачом: «Мы — разам з Вамі, з Вашымі допісамі й тэлефоннымі званкамі. Пішэце, тэлефануйце, прыходзьце. Мы месьцімся ў Вільні, на вуліцы Жыгімонта, дом 12. Наш тэлефон: 22-41-61.

## У БЕЛАРУСКІМ АБ'ЕДНАНЬНІ Ў ЗАХ. АЎСТРАЛІІ

41-ы гадавы зьезд сяброў Беларуската Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі адбыўся 8-га жніеня ў залі Беларускага Народнага Дому. Вітаў прыбыўшых і адчыніў зборку старшыня ўступаючай управы Міхась Раецкі малодшы. Пратакол зь мінулай гадавой зборкі прачытаў сакратар управы сп. Алекс Мароз, а справаздачы з гадавой дзейнасьці, грашовага стану, радыё і захадаў легалізацыі Аб'еднаньня зрабілі: старшыня Б.А. ў З.А. Міхась Раецкі малодшы, скарбнік А. Мароз, кіраўнік Беларускага радыякамітэту Міхась Раецкі старэйшы і ўпаўнаважаны для рэгістрацыі арганізацыі сп. Міхась Ёлаб. З дыскусіяў над справаздачамі выявілася, што ўправа вельмі добра выканала ўскладзеныя на яе абавязкі, за што, як падзяку, атрымала гучныя воплескі.

У новую ўправу былі выбраныя: Міхась Раецкі малодшы — старшыня, Міхась Ёлаб — заст. старшыні, А. Мароз і Марылька Ёлаб — сакратары, Алекс Мароз — скарбнік. На прадстаўнікоў вонкавай сувязі — Міхась Раецкі, а газэты «Беларус» — Марыя Мароз.

### СКАРОЧАНЫ ЗЬМЕСТ СПРАВАЗДАЧЫ СТАРШЫНІ Б.А. Ў З.А. ЗА 1991-1992 ГГ.

У 1991-92 гг. было праароблена нямала працы, вельмі карыснай ня толькі нам тут, але й беларускай справе наагул. Шчыра дзякую ўсім, хто ў меру сваіх магчымасьцяў чым-колечы дапамог узмацненьню й росту нашай дзейнасьці ў Заходняй Аўстраліі. На ўнутраным адрэзку нашай працы, мы ня міналі, каб не адзначыць чарговыя ўгодкі Слуцкага паўстаньня, 25-га Сакавіка ды ўгодкі трагічнай сьмерці Песьняра й Прарока беларускага адраджэньня Я. Купалы. Праводзіцца збор сродкаў для пацярпелых ад радыяцыі на Беларусі. Сабралі ахвяры на беларускіх дзетак з радыяцыйнай зоны, якія былі на месячным адпачытку ў Пэрце ў Зах. Аўстраліі, спатыкалі іх і перадалі ім падарункі. Зьбіралі ахвяры на дэмакратычную прэсу на Беларусі.

У вонкавай дзейнасьці бралі ўдзел у дэманстрацыях македонцаў, славенцаў, харватаў, босьня-гэрцэгавінцаў і кітайцаў. Разам з украінцамі адзначылі пятыя ўгодкі чарнобыльскай катастрофы, бралі ўдзел у адзначаньні украінцамі дня незалежнасьці Украіны ды прадстаўлялі Беларусь на канфэрэнцыях Сусьветнай Лігі Свабоды. Гэтыя ўдзелы паказалі чужынцам, што беларус — гэта не расеец, а Беларусь — не Расея.

Пры нагодзе старшыня выказаў падзяку ад імя суродзічаў айцу Ўладзімеру і матушцы Ірыне за наладжаньне і кіраваньне нашага рэлігійнага жыцьця, а сп. Міхасю Ёлабу — за падтрыхтоўку легалізацыі Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі.

Вельмі карысную працу вядзе ў Пэрце і Беларускі радыёвы камітэт (БРК). Паводля атрыманых вестак, беларускія радыяпраграмы карыстаюцца вялікай папулярнасьцю ня толькі сярод беларусаў, але й іншых этнічных групаў, да посьпеху якіх спрычыніліся кіраўнік БРК Р.М., сп-ня Е. Дамброўская і радыяапэратарка Марылька Ёлаб.

Шмат часу й энэргіі было прысьвечана справе пашырэньня весткі аб зьмене назову Беларусі, пісаньня лістоў-пратэстаў у розныя ўстановы ў справе дэзынфармацыі аб Беларусі й беларусах.

У заканчэньні справаздачы старшыня падзякаваў сп-ні М. Мароз за яе ўклад працы.

**Р. М.**

*Ліст у Рэдакцыю*

## ПАМАЖЭЦЕ БУДАВАЦЬ ЦАРКВУ

Наш паважаны суайчыньнік Янка Запруднік!

Зьвяртаюцца да Вас жыхары невялічкага гарадка Бярозаўка, што на Гарадзеншчыне. Зусім нядаўна на нашай роднай Беларусі прайшла хваля адраджэньня. Праз столькі год беларускі народ адчуў сябе гаспадаром на роднай зямлі. Людзі прыкладаюць шмат намаганьняў для таго, каб хутчэй вывесьці сваю Радзіму з крызісу. Але задуманаме вельмі цяжка ператварыць у справу. Шматгадовае духоўнае абнішчаньне нашага народу — дрэнны дапаможнік у такой вялікай справе. І каб паправіць гэтую памылку, узмацніць дух народу, яго культуру, мы задумалі пабудаваць беларускую царкву, якой ніколі ў нас ня было. Будаўніцтва пачалося на сродкі, сабраныя ў жыхароў гарадка. Амаль пабудаваныя сьцены царквы, купілі матар'ял на дах. Аднак яшчэ шмат сродкаў патрэбна, каб закончыць будаўніцтва. Таму зьвяртаемся да Вас і да ўсіх чытачоў Вашай газэты «Беларус» ад імя ўсіх жыхароў нашага гарадка і Царкоўнага Савету і просім дапамагчы нам сродкамі, каб закончыць пабудову нашай царквы. Будзем вельмі ўдзячны ўсім жыхарам Нью-Ёрку і нашым суайчыньнікам за дапамогу.

Па даручэньню Царкоўнага Савету падпісалі:

**старш. Савету — Моніч Т. І.**
(тэл.: 6-16-04)
**казначэй — В. С. Яраш В. С.**
(тэл.: 6-10-85)
**член Савету — Смоляк Д.**
Царква імя Аляксандра Неўскага
Гродзенская вобл. Лідскі раён
г. Бярозаўка
Разьлікавы рахунак No. 000701401
ПББ г. Ліда

### УСЕБЕЛАРУСКАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ ГІСТОРЫКАЎ

На пачатак 1993 году заплянавана скліканьне ў Менску канфэрэнцыі на тэму: «Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь: новыя канцэпцыі і падыходы». Арганізатарамі канфэрэнцыі выступаюць Міністэрства адукацыі РБ, Інстытут гісторыі АН Беларусі, гістарычны факультэт Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Зацікаўленых просіцца зьвяртацца на адрас: Менск, 22080, пр. Ф. Скарына, 4, БДУ, гістарычны факультэт. Аргкамітэт.

### БЕЛАРУСІКА Ў ЗАХОДНІМ ДРУКУ

Лёнданская газэта Daily Telegraph (7.VIII), амэрыканскі часапіс Time (14.IX) і газэта Wall Street Journal (3.IX), спасылаючыся на брытанскі часапіс Nature, падалі пра рост ракавых захворваньняў дзяцей на Беларусі ад чарнобыльскае радыяцыі.

Кліўлендзкая газэта Plain Dealer (21.IX) зьмясьціла рэпартаж пра выступленьне Міністра замежных спраў Беларусі П. Краўчанкі на банкеце ў Кліўлендзе, дзе сп. Краўчанка запрашаў амэрыканцаў рабіць капіталаўклады ў беларускую эканоміку.

Вялікія артыкулы пра «караля гімнастыкі» беларуса Віталія Шчэрбу зьмясьцілі газэты The Australian (4.VII) і New York Times (1.X). Шчэрба знаходзіцца цяпер у двумесячным падарожжы па 25 гарадох Амэрыкі.

## БЕЛАРУСЫ Ў ЭСТОНІІ

*(Зь ліста ў рэдакцыю «Беларуса» ад сп. Ўладзімера Дзехцярука, старшыні Беларускага Культурнага Згуртаваньня ў эстонскім горадзе Кохтла-Ярве)*

Посьпехі нашы ў справе адраджэньня сярод беларусаў Эстоніі такія, што хваліцца асабліва няма чым. У 17-м нумары газэты 'Літаратура і Мастацтва' я выказаў свае ўласныя меркаваньні наконт гэтага ў артыкуле 'Адродзімся ці не?' Пакуль што дапамагаюць нам толькі эстонцы, а з боку Беларусі амаль ніякай дапамогі няма, адны абяцанкі. Таму й першапачатковая актыўнасьць падае, таму і веры ў справу застаецца ўсё менш і менш. Словы з высокіх трыбун аб змаганьні за вяртаньне на Радзіму з розных кавалкаў былога СССР сваіх сыноў і дачок аказаліся пустой балбатнёй. На наша пытаньне ў Вярхоўны Савет Беларусі наконт вяртаньня быў адказ: едзьце на Беларусь і дамаўляйцеся зь мясцовымі ўладамі. Вось такая «дзяржаўная палітыка».

Але-ж мы ў Эстоніі ня зусім адчайваемся і нейкую справу робім. Эстонскае радыё ўжо год як дало нам магчымасьць выходзіць у эфір і весьці перадачу на беларускай мове для беларусаў Эстоніі. Робіць гэтую перадачу Сяргей Сотчанка, Лявон Валуй ды я. Зусім нядаўна, апрануўшы беларускую нацыянальную вопратку, мы зрабілі на роварах цікавую вандроўку па гарадах Эстоніі. Нумары «Беларуса» вельмі дапамагаюць мне ў падрыхтоўцы радыёперадачаў. Шкада толькі, што атрымаў я іх у гэтым годзе ўсяго два — за студзень і за травень месяцы. Або Вы іх ня ўсе шлеце, або так дрэнна працуе пошта. Хутчэй за ўсё — апошняе, бо, як я бачу, ня ўсе мае лісты трапляюць да Вас.

Аднаго з маіх сяброў з нашага згуртаваньня вельмі зацікавіла старонка «Шукаюць сваякоў». Ён вырашыў таксама зрабіць такую спробу і праз мяне зьвяртаецца да Вас. Ён шукае свайго дзядзьку Лаўрынюка Якава Яўхімавіча, які нарадзіўся каля 1910 году, або яго ных дзяцей. Якаў Лаўрынюк пакінуў Заходнюю Беларусь каля 1930 году і пераехаў у Аргентыну, адкуль слаў лісты ў Беларусь свайму брату Марку. Захаваўся фатаздымак, зроблены ў ліпені 1956 году ў Аргентыне. Ёсьць зьвесткі, што дзеці Якава Лаўрынюка цяпер знаходзяцца ў Парагваі. Калі хто-небудзь ведае што пра іх, напішэце, калі ласка, на адрас: EE2040, EESTI, Riviõli, Pargi tänav 52-25 Уладзіміру Дзехцяруку (для Ул. Лаўрынюка).

Жыве Беларусь!

Чакаю новых нумароў «Беларуса»!

**У. Дзехцярук**

## МУЗЭЙ МАСТАКОЎ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

Няма патрэбы тлумачыць, што народ жыве да таго часу, пакуль жывы яго дух, спрадвек ненатольная прага творчасьці. Апрача агульна драматычных, а то часам і трагічных варункаў жыцьця беларусаў, ня менш небясьпечная, чым палітычныя, эканамічныя, сацыяльныя бездані ды віры ёсьць небясьпечнасьць у надзвычай шчодрых ахвяраваньнях духоўных набыткаў на карысьць іншых культураў ці-то будоўля маскоўскага Крамля, ці-то мажлівыя ўнёскі ў культуру Рэчы Паспалітай. Так было і ў пазьнейшыя часы — і ў XVIII, і ў XIX стст. Згадаем мастакоў С. Заранку, А. Гараўскага, ці ў XX ст. Шагала, Суціня, Сэгаля. Ня будзем ужо казаць пра часы камуністычнага панаваньня зь яго слаўтым злітым зьліцём нацыяў у «адзіную супольнасьць — савецкі народ», калі нацыянальнае вызначэньне мастака гучала ў лепшым выпадку як «выходец из Белоруссии».

Аднак, нават той, хто «выйшаў» зь Беларусі і апынуўся на эміграцыі, ня здольны забыцца на сваю радзіму, спляжыць ушчэнт нябачна-трывалую повязь зямлі і зораў, якая накладае адбітак на душу чалавека. Мастак і Бацькаўшчына непарыўныя, дзе-б ён ні жыў, якім бы паветрам ні дыхаў.

Сьвядомы беларус прафесійны мастак зь Нямеччыны сп. Анатоль Чайкоўскі, які нарадзіўся ў Баварыі, сын мастака-рэаліста з Клецку, у часе сваёй выставы ў Менску (у верасьні 1991 г.) прызнаўся, што датыкненьне да радзімы бацькоў было для яго здзейсьненьнем мары, днямі ці не найшчасьлівейшымі ў жыцьці.

І зараз памятаюць менскія ды гарадзенскія аматары мастацтва, якое ўражаньне зрабілі маляўнічыя коды беларускага мастака зь Беласточчыны Лявона Тарасевіча у 1988 г. Летась мы пабачылі ў Мастацкім музеі Беларусі творы мастака-экспрэсіяніста з Лодзі, беларуса па самавызначэньні Міколы Давідзюка, а сёлета тут з поспехам праходзіць выстава твораў сп-ні Галіны Русак. 27 чэрвеня ў Менску мае адбыцца адкрыцьцё экспазыцыі твораў мастакоў «бліжняга» замежжа «Маю гонар». Пад кіраўніцтвам сп. Вячаслава Целеша — мастака, гісторыка, калекцыянера, аб'яднаўся ў незалежную суполку творцы-беларусы розных мастацкіх кірункаў з Санкт-Пецербургу, Эстоніі, Латвіі, Літвы.

Паводле сведчаньняў прафэсара Адама Мальдзіса, па-за межамі Беларусі жыве больш за 50 мастакоў.

Эстэтычныя здабыткі беларускіх мастакоў Амэрыкі, Канады, Аўстраліі і г.д. неабходна далучыць (і улучыць!) у культурны кантэкст Беларусі. Ад гэтага выйграюць усе — і Беларусь, і самі творцы. Бо ня гледзячы на іншасьць плястычных сродкаў (школы), тэмаў, вобразаў, творы мастакоў, што жывуць па-за межамі Беларусі, нясуць у сабе (бо ня могуць ня несьці) першаэлемэнт беларускі і па-сапраўднаму зразумелы толькі ў Беларусі. Тут, у Беларусі, яны будуць актыўным чынам удзельнічаць у працэсе адраджэньня культуры. Апрача гэтага, істотнымі зьяўляюцца і пытаньні сацыялягічнага характару. Цяжка перабольшыць уплыў іх на станаўленьне беларускай самасьвядомасьці дэнацыяналізаваных жыхароў Беларусі.

З гэтага, на нашу думку, вынікае, што насьпела досыць вострая неабходнасьць стварэньня ў Менску музэю мастакоў беларускага замежжа. Сучасны і добра абсталяваны, са сваімі фондамі, выставачнымі плошчамі і г.д., ён у пэрспэктыве мае мажлівасьць стаць культурна-асьветніцкім асяродкам. Але… Дзяржава занятая парлямэнцкімі спрэчкамі ды надзённымі пытаньнямі эканомікі, Міністэрства культуры — самазаханьнем. Захады наконт музэю рабіліся некалькі разоў, але безвынікова. Ды і зразумела, бо засталіся там тыя самыя людзі на тых-жа пасадах, якія забаранялі прывезьці ў Менск творы Пётры Сяргіевіча зь Вільні. А час ідзе. І Беларусь чакае. Калі думка пра стварэньне музэю падасца слушнай, у рэалізацыі яе не абыйсьціся бяз чыннага ўдзелу саміх творцаў. Адгукніцеся…

**Сяргей Гваздзёў, загадчык аддзелу выставаў Дырэкцыі мастацкіх выставаў МК Рэспублікі Беларусь.**
**Т.х. 345-648**
**Т. пр. 270-141**

## ЗАПІСЫ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ І МАСТАЦТВА. КНІГА 20-Я

Дваццатая кніга Запісаў пачынаецца рэдакцыйным уступам, у якім даюцца акадэмічныя стандарты матарыялаў, што прысылаюцца да друку ды абумоўліваецца тэматыка Запісаў — друкуецца выключна матар'ял зь беларусазнаўства, які нідзе не друкаваўся дагэтуль.

Услед за рэдакцыйным артыкулам выдрукаваныя артыкулы літаратурнага профілю: прафэсара Джыма Дынглі зь Лёнданскага Унівэрсытэту аб паэзіі Натальлі Арсеньневай і аб цяперашняй перабудове ў беларускай літаратуры. Прафэсар Дэмінг Браўн з Унівэрсытэту штату Мішыган у горадзе Ан-Арбары ў ЗША аналізуе творчасьць Васіля Быкава ды значэньне ягонае творчасьці ў працэсе перамены савецкае ўлады. Артыкулы прафэсара Зінаіды Гімпелевіч-Шварцман з канадзкага ўнівэрсытэту ў горадзе Ватэрлё і спадарыні Івонкі Сурвілы з Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе прысьвечаныя разгляду літаратуры й мастацтва Беларусі пасьлячарнобыльскага пэрыяду ды пытаньню ўплыву чарнобыльскай трагэдыі на культурны творчы працэс у Беларусі. Тэме дасьледваньня беларуска-яўрэйскіх дычыненьняў у фальклёры й мовазнаўстве прысьвечаны артыкул ксяндза Рабэрта Тамушанскага, загадчыка беларускае сэкцыі Радыё Ватыкану. У артыкуле айца Тамушанскага даецца шмат тэкстаў у гэбрэйскай мове. Маладая беларуская дасьледніца, спадарыня Паўліна Сурвіла зь Мішыганскага Ўнівэрсытэту аналізуе тэму: Беларусь як прадмет у музыцы й паэзіі. Да літаратурнае тэматыкі адносяцца і нататкі Вітаўта Кіпеля аб беларуска-ангельска-амэрыканскіх літаратурных дачыненьнях ды беларуска-амэрыканскай літаратуры.

Гістарычная тэматыка у чародным выпуску Запісаў насьветленая доктарам Янам Запруднікам у дасьледваньні жыцьця й дзейнасьці беларускага гісторыка й грамадзка-палітычнага дзеяча й дзяржаўнага мужа — Усевалада Ігнатоўскага. Важна падкрэсьліць, што літаратуры ў ангельскай мове аб Усеваладу Ігнатоўскім вельмі мала й артыкул запаўняе гэты прабел. Да гістарычнае тэмы належыць і артыкул прафэсара Тома Бэрда, загалоўлены «Жывучасьць і сваечасовасьць вывучэньня газэты Наша Ніва ды ейнае значаньне ў гісторыі і культурным разьвіцьці беларускае нацыі».

Вялікі разьдзел адведзены ў Запісах мэмуарнай літаратуры — у ім выдрукаваны біяграфічны матар'ял у форме ўспамінаў Язэпа Лешчанкі — знанага беларускага паэта Міхася Кавыля. У гэтым артыкуле дасьледчыкі беларускае літаратуры дваццатых-трыццатых гадоў знойдуць шмат цікавага, новага, дакумэнтальнага матарыялу аб падзеях і працэсах у беларускай літаратуры таго пэрыяду. Вялікі ў 20-м нумары Запісаў і дакумэнтальны архіўны разьдзел, у якім выдрукаваныя артыкулы-агляды Аляксандры Бэргман пра Антона Луцкевіча, Алега Латышонка аб пабыце ксяндза Яна Тарасэвіча на Беларусі пад польскай акупацыяй у сярэдзіне трыццатых гадоў, копіі рукапісаў вершаў Янкі Купалы, арыгінал «Тэстамэнту» Ўладзімера Жылкі ў тым выглядзе, у якім ён стаўся даступным беларускай літаратуры ды дэталёвы ўласнаручна выпаўлены біяграфічны нарыс генэрала Канстантына Езавітава з архіву Рады БНР.

У разьдзеле кнігапісу даюцца крытычныя рэцэнзіі на кнігу Беларускі Трыстан (пераклад Зоры Кіпель; рэцэнзэнт Гай Пікарда).

Спадарыня Зора Кіпель рэцэнзуе кнігу ўкраінскага вучонага Яраслава Ісаевіча аб Івану Фёдаравым,даюцца рэцэнзіі на кнігі аб беларускай дзяржаўнасьці ды разгляд бягучае інфармацыйнае літаратуры.

Багаты агляд навуковае хронікі (ад 1984 году) зачыняе кнігу Запісаў, а паказьнік да дваццаці выпускаў Запісаў, укладзены Ёлантай і Валянцінам Сельвясюкамі замыкае 20-ы выпуск Запісаў.

### Выданьні БІНІМ

У выдавецтве БІНІМу перавыдадзеная **«Беларуская граматыка для школ»** Браніслава Тарашкевіча, выданьне пятае, Вільня 1929 г.

Гэты падручнік перавыдадзены ў памяць выдатных беларускіх настаўнікаў д-ра Аляксандра Орсы й Натальлі Орсы з Наваградчыны. У прадмове да перавыданьня зазначана: «дзеля таго, што Граматыка Браніслава Тарашкевіча ўсё яшчэ ня ўсюды даступная, гэты краявугольны падручнік перадрукоўваецца для шырокага карыстаньня».

Цана «Граматыкі» — 6.00 ам. дал.

Замаўляць гэтыя выданьні па адрасе:

BINIM
230 Springsield Ave.
Rutherford, N.J. 07070

### «ДЗЕЙНАСЬЦЬ КАСТУСЯ МЕРЛЯКА НА ЭМІГРАЦЫІ»

Пад гэткім загалоўкам сп. Канстанцін Мерляк напісаў пра сябе кніжку, якая выйшла сёлета ў ЗША. Падзагаловак кнігі: «Праніклівасьць і практычны падыход». На 476 ілюстраваных старонках аўтар апісвае сваё пахожданьне, жыцьцё і грамадзка-палітычную дзейнасьць у Беларусі, Нямеччыне, Італіі, Аргентыне ды Злучаных Штатах Амэрыкі, дзе ён цяпер жыве. Кніга мае паказьнік прозьвішчаў. Яе можна набыць у аўтара. Цана: 15 даляраў.

### 250 НУМАРОЎ БЮЛЕТЭНЮ БАЗА

Бюлетэнь ньюёркскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня «Весткі й паведамленьні» дасягнуў 1-га кастрычніка сёлета юбілейнага нумару — 250. З гэтай нагоды віншуем ягонага рэдактара й выдаўца сп. Аляксандра Міцкевіча, старшыню аддзелу БАЗА ў Нью-Ёрку. Дзякуючы працавітасьці й сыстэматычнасьці сп. Міцкевіча бюлетэнь карыстаецца заслужанай прыхільнасьцяй чытачоў ня толькі ў Нью-Ёрку, але далёка па-за ім і па-за Амэрыкай.

### ДАКУМЭНТАЛЬНЫЯ ВІДЭАСТУЖКІ З КЛІЎЛЕНДУ

Дваццатага верасьня сёлета ў кліўлендзкім «Полацку» адбыўся банкет у гонар Міністра замежных справаў Беларусі сп. Пятра Краўчанкі. Пры гэтай нагодзе артысты зь Беларусі — Тацьцяна Мархель, Іна Афанасьева, Мікалай Скорыкаў, Зьмітрок Яўтуховіч і паэт Леанід Пранчак — далі канцэрт. Абедзьве падзеі, банкет і канцэрт, былі зьнятыя на асобныя відэастужкі, якія можна набыць. Ёсьць таксама відэастужка Архірэйскай багаслужбы зь 19-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

Зварачацца да сп. Міхася Калядкі: Michael Kolyadko, 14080 Indian Creek Drive, Middlebury Hts, OH 44130. Tel. 216-234-4601.

## УСЕБЕЛАРУСКІ ДОМ У МЕНСКУ

У сувязі з Сусьветным зьездам беларусаў, які мае адбыцца ў чэрвені 1993 г., Нацыянальны навукова-асьветны цэнтр імя Ф. Скарыны і Міжнародны камітэт беларусістаў выступілі зь ініцыятывай стварэньня ў будынку былога Інбелкульту, які распараджэньнем Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь перадаецца Цэнтру, Усебеларускага дому. Мяркуецца, што побач зь іншымі структурамі там будуць працаваць навуковая група па праблеме «Беларусы ў сьвеце», банк адпаведнай інфармацыі, музэйна-выставачная экспазыцыя «Беларусы ў сьвеце» і г.д. Улічваючы ўсё гэта, дзеячы беларускай эміграцыі Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель, а. Аляксандр Надсон, Ян Пятроўскі і іншыя перадалі ўжо Цэнтру нямала кніг, рукапісаў, камплектаў газэт і часапісаў, прадметаў матэрыяльнай культуры, а рыжскія мастакі-беларусы Вячка Целеш і Валеры Дзевіскіба, менскі графік Мікола Купава, маладзечанскі жывапісец Кастусь Харашэвіч — свае творы, зьвязаныя з нацыянальнай праблематыкай і лёсам эміграцыі. Ёсьць надзея, што за гэтым прыкладам пойдуць і іншыя нашы суродзічы, якія пажадаюць, каб на Радзіме ў іх быў супольны дом.

Мяркуецца, што адкрыцьцё Ўсебеларускага дому адбудзецца ў часе работы зьезду.

Адрас Цэнтра — Беларусь, 220072, Менск-72, прасп. Скарыны, 66, п. 420, тэл. 39-48-83, 39-55-91, 39-48-88, факс 7-0172-39-31-63.

**Адам Мальдзіс**

### «ЗВАЖАЙ» № 4(68)
**Лістапад 1992 г.**

У нумары на 8 старонках: А. Акула — Як цярпець такі зьдзек пасьля Курапатаў і Чарнобыля? (пра сьляды расейскага камунізму ў сучаснай Беларусі). К. Акула — На Бацькаўшчыне (ілюстраваныя нататкі пра наведаньне Бацькаўшчыны). Заява Сойму БНФ пра нутранапалітычнае становішча ў Беларусі і лёс незалежнасьці. Хроніка, нэкралёгі і іншае.

Трапіўшы ў доўг, часапіс просіць грашовай дапамогі. Адрас: ZVAZAJ, 57 Riverdale Avenue, Toronto, Ont. M4K 1C2, Canada.

### «ПОЛАЦАК» № 7(17)

У нумары на 72 старонках: С. Грахоўскі — верш. М. Белямук — Загадка царквы-пахавальні. Я. Юхо — Кароткі нарыс па гісторыі дзяржавы і права Беларусі. П. Урбан — Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў. А. Мясьнікоў — Урывак з гістарычнага нарысу «Язэп Лёсік»: супярэчнасьці асобы». Уласнаручныя паказаньні Канстантына Езавітава (з архіваў КДБ). А. Белая — Тысячагодзьдзе Полацкай япіскопіі. К. Мерляк — Прыняцьцё ў Вярхоўным Савеце Беларусі. С. Тарасаў — Нязвычайная знаходка ў Полацку. С. Белая — Пад зоркаю надзеі (пра сустрэчы беларусаў Пн. Амэрыкі). С. Анатольева — Сустрэчы зь Міністрам замежных справаў. С. Менская — Беларускае сьвята ў ААН. Хроніка, нэкралёг. Ілюстрацыі.

### «ФОС» № 7-9. 1992
**Квартальнік моладзі Беластоцка-Гданьскай епархіі**

У нумары на 8 старонках: ілюстраваная хроніка з жыцьця й дзейнасьці праваслаўнай моладзі на Беласточчыне. Л.Варкач — Пачаткі фізычнага жыцьця чалавека. Падляшша — Грабарка — Шлях праз тысячу гадоў.

### «ГОЛАС ЧАСУ» №(5)
**Верасень-кастрычнік 1992**

У нумары (42 ст.): А. Мірановіч — Невядомая крыніца да гісторыі Жыровіцкай іконы Божай Маці. Ю. Весялкоўскі — Канстанцін Вялікі, першы хрысьціянскі імпэратар. С. Таляронак — Тайныя таварыствы ў Літве і на Беларусі ў канцы XVIII ст.. Ю. Весялкоўскі — Кейстут, Вітаўт і Ягайла. Ю. Сьвяржынскі — Палякі на Беларусі і аб Беларусі. Ю. Весялкоўскі — Першая беларуская арганізацыя ў Вялікабрытаніі і яе духоўныя і палітычныя апякуны. А. Бароўскі — Пабег на Радзіму. Хроніка, выпісы з друку, лісты ў рэдакцыю, нэкралёгі.

### У «ЗАПІСАХ КАНГРЭСУ» ЗША
**Пра незалежнасьць Беларусі**

Пад загалоўкам «Дзень беларускай незалежнасьці» ў стэнаграфічных справаздачах Кангрэсу ЗША, «Кангрэсавыя Запісы» (Congressional Record) зьмешчаная прамова кангрэсмэна Фрэнка Анунцыё із штату Іліной з нагоды 74-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі ды адзначэньня гэтага сьвята Беларуска-Амэрыканскім Каардынацыйным Камітэтам Чыкага. У сваёй прамове сп. Анунцыё выкарыстаў тэкст рэзалюцыі Камітэту, прысланы яму сп-няй Верай Рамук, сакратаром гэтай арганізацыі. Сваё выступленьне ў Кангрэсе ЗША сп. Анунцыё закончыў словамі: «Цяпер, калі Беларусь здабыла ізноў сваю незалежнасьць, я спадзяюся, што беларусы будуць разбудоўваць дэмакратыю з такой-жа энэргіяй і наважанасьцяй, якая забясьпечыла ім перамогу напрыканцы халоднай вайны».

### CZASOPIS, №№ 7-8, 9, 10
**Ліпень — кастрычнік 1992**

Czasopis — гэта культурна-інфармацыйны месячнік Усходняй Беласточчыны. Бальшыня матар'ялаў у ім зьмяшчаецца па-польску, але выкарыстоўваецца і беларуская мова, друкуюцца творы беларускай літаратуры. Часапіс выходзіць ужо трэці год. Ілюстраваны. У матар'ялах закранаюцца пытаньні беларуска-польскіх дачыненьняў, зьмяшчаюцца артыкулы на гістарычныя й гістарычна-рэлігійныя тэмы, падаецца хроніка беларускага жыцьця як на Беласточчыне, гэтак і ў Беларусі. У нумары 7-8-м зьмешчаны ілюстраваны матар'ял Янкі Максімюка пра «пераходны пэрыяд» беларускай эміграцыі (жыцьцё ў Нямеччыне ў Міхэльсдорфскім лягеры ДП).

У часапісе супрацоўнічаюць ведамыя дзеячы беларускае культуры й адраджэнскае справы: Сакрат Яновіч, Алег Латышонак, Лёнік Тарасэвіч, браты Антон і Аўген Мірановічы ды іншыя.

Адрас часапісу: 15-001 Białystok, ul. Suraska 1, skr. poczt. 262.

### ПАДЗЯКА СУПРАЦОЎНІКАМ

Рэдакцыя «Беларуса» шчыра дзякуе за прысланыя ёй газэтныя й часапісныя выразкі або ксэракопіі наступным асобам: Ю. Азарку, Ул. Акавітаму, Т. Бэрду, К. Вераб'ю, Н. Запрудзік, М. Калядку, А. Маркевічу, М. Махначу, А. Міцкевічу, Ч. Найдзюку, М. Прускаму, М. Раецкаму, М. Швэдзюку, Л. Шураку.

**Рэдакцыя «Беларуса»**

## СЬВЕТЛАЯ † ПАМЯЦЬ
# ЮРКІ ЛУЦКЕВІЧА
**(22.X.1920 — 12.VIII.1992)**



Сумная вестка прыйшла да нас зь Вільні. Памёр Юрка Луцкевіч, старэйшы сын аднаго зь першых нашых нацыянальных адраджэнцаў, Антона Луцкевіча. Быць сынам апостала першага нацыянальнага адраджэньня беларускага народу пачатку веку справа нялёгкая. Быць-жа ўва ўмовах таталітарнай камуністычнай дзяржавы нялёгкая ўдвая. Юрка-ж Луцкевіч амаль усё сваё сьвядомае жыцьцё быў паводле савецкай прапаганды сынам «правадыра беларускіх фашыстаў», сынам «заклятага ворага савецкай улады». І таму жылося яму пад Саветамі цяжка, а часам жыцьцё яго ператваралася ў сапраўдную трагедыю, трагедыю, якая ніколі не змагла да канца зламаць яго, пераўтварыць у бяздушную зьнішчаную тэрорам чалавечую адзінку. Ён заўсёды, нават ува ўмовах цяжкага турэмнага зьняволеньня захоўваў чалавечую годнасьць, заставаўся сапраўдным беларусам, патрыётам роднага краю.

Усе тыя, хто ведаў яго пры жыцьці, не маглі не паважаць яго адносіны да беларускасьці. У яго доме шанаваліся імёны Івана і Антона Луцкевічаў, зьберагаліся нешматлікія памяткі аб вялікіх братах, заснавальніках першага беларускага палітычнага руху. Ахвотна і вельмі гасцінна ў яго доме прымаліся наведвальнікі з савецкай тады яшчэ Беларусі. Юрка і яго вельмі мілая жонка, таксама нябожчыца, Ніна (Юрка перажыў яе ўсяго на год) добра разумелі, што ўжо сам факт наведвання іх можа паслужыць у якасці падставы да кампрамітацыі там на Беларусі. І таму прымалі гасьцей яны вельмі чульліва і безь непатрэбных эмоцый.

Юрка вельмі ахвотна заўсёды дзяліўся сваімі ўспамінамі пра бацьку, быў гатоў служыць у якасці аўтарытэта-эксперта гісторыкам, этнографам, літаратуразнаўцам і прадстаўнікам іншых галін навуковай веды. Быў ён ня толькі жывым сьветкам жыцьця і дзейнасьці свайго вялікага бацькі, але й своеасаблівым суаўтарам для даследчыкаў і біёграфаў Антона Луцкевіча. Ягоная сьмерць — вялікая страта для беларускага віленскага асяродзьдзя, для беларускай гістарычнай навукі, якая, дарэчы, толькі, толькі нараджаецца.

Юрый Антонавіч Луцкевіч нарадзіўся 22 кастрычніка 1920 г. ў Вільні. Сярэднюю адукацыю атрымаў у славутай Віленскай Беларускай Гімназіі, а таксама ў Віленскім Тэхнічным Вучылішчы, дзе атрымаў спэцыяльнасць тэхніка-электрыка. Другая сусьветная вайна перашкодзіла яму атрымаць вышэйшую адукацыю. Са студэнцкай лаўкі Варшаўскай Палітэхнікі трапіў ён у афіцэрскую школу польскага войска, а затым у нямецкі палон. Ад камуністычных рэпрэсій яго ўратавала тое, што Вільня на восем кароткіх месяцаў апынулася ў складзе Літвы. Трагічны лёс бацькі, арыштаванага і замучанага бальшавікамі, пазбавіў маладога Юрку Луцкевіча якіх-небудзь ілюзій у адносінах да савецкай улады. І калі ўлетку 1940 году ўся Літва была акупаваная Чырвонай арміяй, ён слушна выралыў перачакаць новую навальніцу. Да пачатку савецка-нямецкай вайны Юрка Луцкевіч са сваім малодшым братам Лявонам практычна знаходзіліся на паўлегальным становішчы. З пачаткам-жа вайны ў яго зьявілася магчымасьць прысьвяціць сваё жыцьцё без астатку працы на ніве беларускасьці. Ён працуе дырэктарам беларускамоўнай няпоўнай сярэдняй школы ў Радашкавічах, пазьней настаўнічае ў баранавіцкай беларускай прагімназіі. Удзельнічае ў палітычным жыцьці Беларусі, не адмаўляецца ўзяць у рукі зброю, каб бараніць ідэю незалежнай Беларусі. У беларускім войску меў афіцэрскі чын.

Пасьля вайны ня змог прабрацца на Захад. Лёс кінуў яго ў зруйнаваную Варшаву, але пад канец 1945 году агенты НКУС выкрылі групу беларусаў, у тым ліку і братоў Луцкевічаў: Юрку і Лявона.

Пачалося сьледзтва, вынік якога можна было прадбачыць. Юрка атрымаў 25 гадоў лягеру «за здраду і супрацоўніцтва з ворагам». Зьняволеньне адбываў ён на далёкай Калыме.

Пасьля сьмерці Сталіна вызвалілі яго адным з апошніх палітычных вязьняў, толькі ў 1957 годзе. Але гэта была ўсяго толькі амністыя безь ніякай рэабілітацыі. І таму, калі Юрка Луцкевіч вярнуўся ў родную Вільню, меў ён у кішэні так званы «воўчы пашпарт», дакумэнт, у якім выразна сьцвярджалася, што ён быў асуджаны за «здраду радзімы». А гэта значыла, што ён злачынца, паслугач ворага і да т.п.

Аб нармальным жыцьці з падобнымі паперамі ня было мовы. Можна было-б напэўна і не зьвяртаць увагі на гэтую няпрыемную акалічнасьць, але ў Юркі была сям'я, трое дзяцей. Юрка хацеў, каб яны мелі нармальную будучыню (хаця аб нармальнасьці ў савецкіх таталітарных умовах вельмі цяжка гаварыць). Таму старшы Луцкевіч неаднойчы намагаўся атрымаць рэабілітацыю, але ўсе ягоныя спробы атрымаць рэабілітацыю ад КДБ не прывялі да нейкіх канкрэтных пазытыўных вынікаў. Ды й шчыра кажучы, не маглі прывесьці да пажаданай рэабілітацыі. Практычна гэтыя органы рэжыму зьдзекаваліся зь нямаладога ўжо чалавека, які раз за разам з упартасцю былога зэка прабаваў знайсьці справядлівасьць там, дзе яе ніколі ня было, ды й не магло быць.

Пасьля вяртаньня з Калымы Юрка разам са сваім малодшым братам Лявонам прабавалі высьветліць лёс свайго бацькі, Антона Луцкевіча. Але ўсе іх спробы прывялі толькі да кароткага ліста за подпісам нейкага другараднага чыноўніка з КДБ. Ліст гэты лякаанічна інфармаваў аб тым, што іх бацька памёр нібыта ў 1946 годзе недзе ў Казахстане ў ссылцы. Звычайная адпіска, якая на нейкі час стала адзінай рэальнай крыніцай інфармацыі аб апошніх гадах жыцьця вялікага беларуса, аднаго з заснавальнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 г., прадвесьніцы сёньняшняй беларускай незалежнасьці.

Віленскае беларускае грамадзтва панесла вялікую страту. Адыйшоў чалавек, які ўвасабляў сабой беларускасьць Вільні, член выдатнага беларускага роду, роду беларускіх адраджэнцаў. Юрка Луцкевіч быў простым, чульлівым чалавекам, сумленным беларусам, які як мог намагаўся зьберагаць і бараніць ідэі беларускага адраджэньня, ідэі, змаганьню за якія аддаў усё жыцьцё без астатку ягоны вялікі бацька.

Але славуты луцкевічаўскі віленскі беларускі род жыве. Актыўна працуе на ніве беларускага нацыянальнага адраджэньня малодшы з братоў Луцкевічаў, Лявон. У беларускі рух уключыліся дзеці Юркі: сын Ясь і дачка Алеся. Беларуская Вільня жыве, жыве й плённа дзейнічае ў яе асяродзьдзі славуты і вялікі род Луцкевічаў.

**Мікола Іваноў**

## ПАМЁР С. ХМАРА

У гор. Таронта ў Канадзе памёр 5 верасьня сёлета на 87-м годзе жыцьця Сяргей Сіняк-Хмара, выдавец газэты «Беларускі Голас».

## ШУКАЮ СЯМ'Ю ДЗЯДЗЬКІ В. БАРАЗЭНА

**Анцыповіч Мікалай Васільевіч** (нарадз. ў 1944 г. ў в. Бранавічы Слуцкага р-ну), выкладчык катэдры філязофіі Беларускай Палітэхнічнай Акадэміі, шукае сям'ю свайго дзядзькі з боку маці, Васіля Фёдаравіча Баразенькі, які выехаў у Амэрыку прыкладна ў 1911-1914 гг. У дзядзькі быў сын Васіль, народжаны ў 1920-х гадох. Пасьля вайны, у 1948-53 гг., дзядзька прыслаў сваёй сястры (маці сп. М. Анцыповіча) два лісты. Ягоны адрас быў: Mr. Wm. H. Barzen, R.D. 1, Box 405 (раней было: Box 5/9), McKeesport, PA. Пасланы дзядзьку ў 1959 г. ліст вярнуўся назад.

Калі хто можа дапамагчы сп. Анцыповічу знайсьці дзядзьку, за што ён будзе вельмі ўдзячны, просім пісаць на адрас: 220095 Менск, а/с 166, Анцыповічу Мікалаю Васільевічу.

*Пошукі сваякоў*

## ШУКАЕЦЕ ПРАПАЛЫХ БЯЗЬ ВЕСТАК?

Магу аказаць дапамогу ў высьвятленьні лёсу тых, хто прапаў бязь вестак у 1941-1944 гг., а таксама пры пошуку родных, сваякоў, сяброў, з кім Вы страцілі сувязь. Пішэце на адрас:

222322 Менская вобл.
Маладзечанскі раён
г. п. Радашковічы
вул. Менская, д. 8, кв. 4
Брышцену Вячаславу Антонавічу

## ПРА ГЕНАЦЫД І КУРАПАТЫ

У грунтоўным дасьледаваньні амэрыканскага прафэсара Р. Джэй. Руммэля «Сьмяротная палітыка. Савецкі генацыд і масавыя забойствы ад 1917 году» (*R. J. Rummel. Lethal Politics. Soviet Genocide and Mass Murder Since 1917*. New Brunswick and London: Transaction Publishers) (гэта частка пяцітомнае працы «Разуменьне канфлікту й вайны») згадваюцца таксама Курапаты са спасылкай на артыкул З. Пазьняка ў газэце «Маскоўскія Навіны» (англамоўнае выданьне) і зазначаецца, што падобныя да Курапатаў магілы знойдзеныя каля іншых гарадоў Беларусі.

Паводле падлікаў праф. Руммэля, камуністы ў Савецкім Саюзе зьнішчылі на працягу 1917-1987 гадоў 61.911.000 людзей.

## Выданьні Беларускай Аўтакефальной Праваслаўнай Царквы

**Слоўнік сваяцтва,** укладальнік Мітрапаліт Мікалай. Таронта, Канада, 1992. 17 ст.

**Кароткі беларускі тэрміналягічны царкоўны слоўнік**, укладальнік Мітрапаліт Мікалай. Таронта, Канада, 1992. 76 ст.

Гэтыя першыя ў гісторыі беларускага слоўніцтва выданьні можна набываць па ўсіх прыходах БАПЦ, а таксама ў беларускіх грамадзкіх і культурных цэнтрах.

## КАЛЯДНА-НАВАГОДНІЯ ВІНШАВАНЬНІ!!!

Павіншуйце сваякоў, сяброў і знаёмых тут і на Бацькаўшчыне праз газэту «Беларус» і падтрымайце гэтым беларускае друкаванае слова, складаючы ахвяраваньне на выдавецкі фонд «Беларуса» ў суме **20 дал. за асабістае віншаваньне і 50 дал. за арганізацыйнае.**

Няхай Ваша імя або назоў Вашай арганізацыі, прыходу, установы будзе ў ганаровым сьпісе тых, хто дацэньвае й падтрымлівае вольны беларускі друк. Газэта «Беларус» патрабуе Вашай фінансавай дапамогі. Тэрмін уключэньня Вашага прозьвішча або Вашай арганізацыі ў гэткі сьпіс — 5 сьнежня.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча падпіска й ахвяры:*

| | |
|---|---|
| Др. Б. Рагуля | ам. дал. 100 |
| Я. Запруднік у памяць П. Кажуры | 100 |
| М. Целушэцкі | 50 |
| А. Кажан | 50 |
| Ю. Арцюшэнка | 25 |
| Т. Пятроўскі | 25 |
| В. Цар | 25 |
| У. Бычкоўскі | 25 |
| В. Тур | 20 |
| В. Сельвясюк | 20 |
| В. Пашкевіч | 20 |
| Б. Даніловіч | 20 |
| А. Лукашук | 10 |
| З продажу | 5 |
| Разам | 495 |

Усім ахвярадаўцам і падпішчыкам шчыры дзякуй!

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ

| | |
|---|---|
| Др.Л. Трусэвіч | ам. дал. 150 |
| К. Калоша | 40 |
| С. Карніловіч | 75 |
| Я. Цялушэцкі (у памяць П. Кажуры) | 50 |

*Просьба да чытачоў і ахвярадаўцаў*

## У СПРАВЕ РАЗЬЛІКУ ЗА ГАЗЭТУ

Асобы, што дастаюць газэту ад нашага прадстаўніка сп. Браніслава Даніловіча, павінны зь ім і разьлічвацца, выпісваючы чэк на ягонае імя і перасылаючы на ягоны адрас:

B. Danilovich
303 Howard St.
New Brunswick, NY 08901

**Адміністрацыя «Беларуса»**

## ПАПРАЎКА

У № 392 «Беларуса» ня было адзначана, про ахвяраваныя на газ. «Беларус» сп-няй А. Лог 100 дал. былі ад прыяцеляў сьв. пам. В. Стомы, якія ведалі, што яму дарагое роднае слова. Падаём гэта цяпер і выбачаемся за недагляд.